Намінальная налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў у Беларусі склала ў маі 943,9 рубля, паведамляе Нацстат.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


**№ 51 (4303)**

26 чэрвеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Толькі сёння!

Так, заўтра ўжо нельга будзе падпісацца на "Народную Волю", каб атрымліваць яе нумары з 1 ліпеня. Калі сёння не завітаеце ў любое паштовае аддзяленне ці ў спецыялізаваныя пункты "Белсаюздруку", то ў наступныя дні аформіць падпіску можна будзе толькі на жнівень–снежань.

Не перарываем сяброўства! А калі да нас далучацца новыя падпісчыкі – скажам дзякуй!

**Рэдакцыя.**

СТОП-КАДР

## Лепш з'есці свежы яблык, чым захоўваць дома шкодныя адпрацаваныя батарэйкі

На здымку – вялікая чарга ля гандлёвага цэнтра "Варшаўскі", што ў Брэсце. Той выпадак, калі тых, хто ініцыяваў яе, не крытыкаваць трэба, а хваліць. Утварылася яна як водгук на акцыю GREEN: ачышчаеце кватэру ад адпрацаваных батарэек – атрымліваеце бясплатна свежую садавіну. Адна батарэйка – адзін яблык.

Пакуль бацькі стаялі ў чарзе, дзяцей займалі розныя аніматары.






СКАЗАНО!

## Александр ЛУКАШЕНКО:

*– Мы на фронте. Если мы не выдержим эти годы, провалимся, значит, надо будет в состав какого-то государства идти или о нас просто будут вытирать ноги.*

**(Из диалога во время поездки в Шкловский район.)**

## Вас не встревожили эти слова?

**Василий ШЛЫНДИКОВ, экс-глава концерна «Амкодор», депутат Верховного Совета 13-го созыва:**

– С одной стороны, Лукашенко много чего экспромтом может наговорить. А с другой стороны, кто его знает: может, и вправду его подпирают со всех сторон...

Но мне кажется, что даже разговоры на эту тему вредны. И не стоило вот так публично заявлять о том, что если что-то у нас не получится, то можно собираться в состав какого-то государства... Какого? Российского, которое в стадии распада находится? Или в польское? Мы были и там, и там. Надо самостоятельно жить!

Если это подготовка к аннексии страны, то это уже не шутки... Но мне не хочется серьезно относиться к таким словам.

**Денис МЕЛЬЯНЦОВ, политолог:**

– Слова эти, скорее, озадачивают... И лучше было бы, конечно, у самого Александра Григорьевича спросить, что он имел в виду. К тому же он не впервые говорит, что нам на этом клочке земли нужно день простоять и ночь продержаться. Видимо, идет отсылка к сложному геополитическому положению, в котором оказалась Беларусь. С одной стороны, конфликт на востоке Украины, напряженность между Россией и Западом, а мы пытаемся быть между этим всем, над схваткой...

Не исключено, что это могла быть такая мотивационная речь для региональных чиновников, чтобы они не расслаблялись и работали так, чтобы нам не пришлось зависеть ни от кого. Но, повторяю, трудно предполагать, не имея прямого подключения к Александру Григорьевичу...

Готовы ли белорусы войти в состав другого государства? Судя по последним социологическим опросам, которые проводили независимые институты, можно однозначно говорить: в стране среди элит и среди населения есть консенсус по этому вопросу. Большинство против вхождения в состав любого государства и выступает за абсолютную независимость Беларуси.

**Алесь ЛОГВИНЕЦ, переводчик, преподаватель:**

– Для страны, конечно, ужасно, что мы, имея почти три десятка лет независимости, снова возвращаемся к разговорам о том, что можем оказаться в составе какой-то другой державы. С одной стороны, довольно удивительно слышать от Лукашенко об агрессивной натуре России, а с другой – его слова свидетельствуют, что та система управления, которую он выстроил, не обеспечивает долгосрочного развития и процветания Беларуси.

**Сергей КАЛЯКИН, лидер Белорусской партии левых «Справедливый мир»:**

– Когда я слушаю Александра Григорьевича, у меня такое чувство, что он всегда на фронте! И мы все время воюем. У нас то битвы за урожай, то за промышленность... Скорее всего, это просто такая фигуральность речи. Возможно, она навеяна какой-то информацией, которая к нему поступает. Но я думаю, что слишком большого внимания этому уделять не стоит.

Хотя, безусловно, в словах Лукашенко есть определенный смысл. Сегодня продовольственный экспорт является существенным подспорьем для жизни страны. Конкуренция огромная, основной рынок у нас – Российская Федерация, а там тоже есть свои производители и свои бизнесмены, которые хотели бы зарабатывать. И им присутствие нашей продукции мешает. Идут торговые войны, и не только потому, что есть реальные проблемы, связанные с санитарным контролем. Это большая политика.

Главное, чем мы пока действительно можем бить конкурентов, – это качество продукции. Сегодня во всем мире правила игры меняются, каждый блюдет собственный интерес. И нам надо быть к этому готовыми: развивать не только сельское хозяйство, но и другие сферы, поднимать конкурентоспособность нашей экономики, продукции, искать альтернативные рынки сбыта, но и не терять те, которые имеем.

**Опрашивала Марина КОКТЫШ.**

ПЕРСОНА

## Фініш Дар'і Домрачавай

*Герой Беларусі, чатырохразовая алімпійская чэмпіёнка Дар'я Домрачава заявіла аб завяршэнні спартыўнай кар'еры.*

На прэс-канферэнцыі, якую зладзілі ў штаб-кватэры Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі, легендарная біятланістка выступіла з адмысловай заявай.



– Мне дастаткова няпроста было сабрацца і запрасіць сюды ўсіх вас, – *сказала Дар'я.* – Я вельмі доўга думала, але прыйшоў час расставіць кропкі над "і". Увесь час пасля заканчэння сезона я спрабавала знайсці кампраміс, які дазволіў бы мне выхоўваць дзіця і сумяшчаць гэта ўсё з прафесійнай спартыўнай кар'ерай. На жаль, я не знайшла аптымальнага рашэння, якое дазволіла б сумяшчаць гэтыя дзве важныя для мяне галіны жыцця. Гэтае рашэнне для мяне абдуманае і, канечне ж, нялёгкае, але я завяршаю сваю спартыўную кар'еру. Час, які я правяла ў прафесійным спорце, для мяне будзе незабыўны. І я хачу аддзячыць усім тым, хто быў побач, хто сустрэўся мне і дапамагаў мне на гэтым шляху. Хачу сказаць вялікі дзякуй! Усім, пачынаючы ад майго першага трэнера, маёй каманды і заканчваючы поварамі тых трэніровачных комплексаў на якіх мне давялося рыхтавацца. Я хачу сказаць дзякуй маім неверагодным балельшчыкам. Дзякуй за тое, што я магла адчуваць вас за сваёй спінай у хвіліны перамог, а таксама не ў самыя лёгкія моманты. Я хачу аддзячыць журналістам, якія асвятлялі мае выступленні, маёй сям'і, якая заўжды побач, якая верыць і дапамагае мне ва ўсім. І, канечне, самае галоўнае – я хачу сказаць дзякуй маёй краіне за тое, што, перамагаючы, я магла з гонарам адчуваць, што гэта не толькі мае перамогі, але і перамогі ўсёй краіны. Дзякуй, я адчуваю, што завяршэнне спартыўнай кар'еры для мяне – правільнае рашэнне.

*Пасля таго як Дар'я Домрачава выступіла з гэтай заявай, журналісты змаглі задаць ёй свае пытанні. Вось самыя цікавыя з іх.*

**– Дар'я, скажыце, на вашае рашэнне паўплывалі выключна спартыўныя фактары?**

– Вы пачулі галоўную прычыну, усе астатнія моманты – гэта другаснае.

**– Пасля завяршэння кар'еры вы, напэўна, думалі над тым, дзе будзеце жыць разам з сям'ёй: тут, у Беларусі, ці на радзіме мужа, у Нарвегіі, а можа быць, гэта будзе нейкая трэцяя краіна?**

– На гэты момант у нашых планах сумяшчаць некалькі месцаў пражывання, пакуль дазваляе графік нашага жыцця. А далей, калі дачушцы Ксеніі прыйдзецца ісці ў школу, будзем вызначацца.

**– У прыярытэце нарвежская ці беларуская адукацыя?**

– У нас яшчэ ёсць некалькі гадоў, каб падумаць, і рашэнне мы будзем прымаць, сыходзячы з жыццёвай сітуацыі, якая складзецца на той момант.

**– Ці плануеце вы пайсці на трэнерскую працу?**

– Канкрэтных планаў у мяне зараз няма. Проста хацелася б адпачыць ад таго шалёнага рытму, якім я жыла з шасцігадовага ўзросту. А далей – пажывём – паглядзім. Ёсць пэўныя задумкі, якія зараз раскрываць рана.

**– Ці ведаў аб тым, што вы скажаце на гэтай прэс-канферэнцыі, Аляксандр Лукашэнка?**

– Асабістай сустрэчы з ім у мяне апошнім часам не было, але ён ведаў пра мой намер завяршыць кар'еру. Спадзяюся, як і іншыя балельшчыкі, ён паставіўся да гэтага майго рашэння з паразуменнем.

**– Дар'я, вы Герой Беларусі, чатырохразовая алімпійская чэмпіёнка. Здаецца, з такім багажом прамая дарога ў беларускую палітыку...**

– Такіх планаў у мяне няма. Скажу больш, палітыка – гэта зусім не маё...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

НУ І НУ!

## Медыцына ў... кайданках

З'явілася інфармацыя аб затрыманні галоўнага ўрача Мінскай абласной бальніцы **Андрэя Каралько** і начальніка ўпраўлення аховы здароўя Гродзенскага аблвыканкама **Андрэя Стрыжака.**

Афіцыйны прадстаўнік КДБ Андрэй Яраш пацвердзіў гродзенскім журналістам, што Стрыжак на самай справе затрыманы, пры гэтым ён не ўдакладніў, з якога чысла чыноўнік знаходзіцца пад вартай і ў чым падазраецца. Наконт затрымання Каралько афіцыйнай інфармацыі няма, хаця ў бальніцы кажуць, што галоўны ўрач з мінулай серады адсутнічае на сваім працоўным месцы. Яго, паводле некаторых звестак, затрымалі ў бальніцы, вывелі з медустановы ў кайданках.

АФІЦЫЙНА

## У залежнасці ад сярэдняй зарплаты

Пытанне аб павышэнні памеру дапамогі па доглядзе дзіцяці да 3 гадоў цяпер не разглядаецца, заявіў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Беларусі **Валерый Кавалькоў** у час анлайн-канферэнцыі на тэму "Дзяржаўная падтрымка сем'яў, што выхоўваюць дзяцей", праведзенай на сайце Мінпрацы.

Як вядома, памер гэтай дапамогі на першае дзіця складае 35 працэнтаў сярэднямесячнай зарплаты (312,03 рубля), на другое і наступных – 40 працэнтаў (356,6), на дзіця-інваліда – 45 працэнтаў (401,18 рубля). Пераразлік памераў дапамог праводзіцца па меры павелічэння сярэднямесячнай заработнай платы – з 1 лютага і 1 жніўня.



ІМПРЭЗА

## МЗС святкуе Сонцаварот

Дзе зараз можна пачуць музыку старадаўняга Купалля? Уявіце сабе, што ў сценах Міністэрства замежных спраў. Там учора адзначалі Сонцаварот, дзень летняга сонцастаяння, свята, якое калісьці цэлы тыдзень адзначалася прыгожымі народнымі абрадамі, песнямі, карагодамі. З гэтай нагоды ў МЗС пад музыку фальклорнага гурта "Ветах" з Універсітэта культуры і мастацтваў адкрылі фотавыставу "Спадчына Беларусі".



На імпрэзу быў запрошаны ўвесь пасольскі двор – паслы і прадстаўнікі замежных дзяржаў, якія працуюць у Беларусі. Сярод гасцей былі адзначаны таксама адразу чатыры міністры культуры – дзеючы зараз Юрый Бондар, а таксама яго папярэднікі Я.Вайтовіч, А.Бутэвіч, П.Латушка. Адкрываў выставу міністр замежных спраў **Уладзімір Макей**, які зазначыў, што нацыянальная культура Беларусі з'яўляецца не толькі багаццем беларускай зямлі, але і часткай сусветнага духоўнага патэнцыялу.

**Кірыл БУБНОЎ.**



Народная Воля http://www.nv-online.info
26 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

# Крепостные с дипломом

«От призыва в армию отделаться можно. От распределения – никак! Мой «долг родине» даже длиннее армейской службы и обещает не меньший экстрим», – говорит Максим, завсегдатай минских тусовок. К 1 августа он обязан явиться в райцентр на юге Беларуси.

И, скорее всего, явится: 98% получивших направление на работу (данные Минобразования по итогам 2017 г.) предпочитают не рисковать.

В Беларуси с советских времен действует система распределения выпускников высших и средних специальных учебных заведений, но среди новшеств последних лет – более чем стопроцентное возмещение госрасходов за обучение для нежелающих отрабатывать назначенный срок.

Система контроля за этими выплатами строга: не рассчитавшись с государством, не можешь, например, выехать за границу или оформить кредит.

Впрочем, для молодых специалистов предусмотрены льготы, и есть возможность воспользоваться распределением так, «чтобы не было мучительно больно» (как советовала советская классика).



Выпускники бюджетной формы обучения в Беларуси обычно отрабатывают по распределению два года; но Виталий Волоткевич так называемый «целевик» – поступал в медуниверситет по направлению-договору учреждения здравоохранения.

Такие целевые направления от предприятий либо организаций дают абитуриенту право бесплатно получить высшее, среднее специальное, профессионально-техническое и послевузовское образование (для «целевиков» при поступлении – отдельный конкурс).

Государство оплачивает учебу «целевиков», чтобы восполнить нехватку кадров в социально значимых сферах; но срок обязательной отработки после учебы для получивших высшее образование – не менее пяти лет.

Отработать по распределению Волоткевичу нужно еще три года.

## Уехать в деревню

*– В агрогородок Обольцы я приехал два года назад, направили после Витебского медуниверситета и года интернатуры в районной больнице. Месяц ночевал то у местных, то в своем кабинете руководителя сельской амбулатории, потом очень холодно стало, и нашлась эта печка – я забрался на лежанку, подложив под себя все, что было в моей дорожной сумке*, – улыбаясь, рассказывает молодой врач **Виталий Волоткевич**.

Печка нашлась в старом деревенском доме с прогнившим полом и удобствами во дворе, да и то по счастливому случаю: занимавшая его половину молодая учительница, отработав положенное по распределению, уехала из Обольцев, а новый педагог к назначенному месту отработки не прибыл.

По закону распределенным молодым специалистам могут предоставить жилье, на местах же – как получается.

В «наследство» молодому врачу досталась старая стиральная доска («Раритет! – Виталий демонстрирует фото своего заселения. – Такие только в старых букварях есть, где «Мама на кухне стирала белье»), кочерга и швабра.

Бонус – стеклопакеты в окнах, установленные прежней мерзшей тут квартиранткой.

Забитую сажей грубку – обогревающую комнату печь – пришлось сломать и выложить по новой; на старой печной лежанке Виталий отогревается, возвращаясь с работы домой; готовит в мультиварке (газа нет); белье постирать возит к маме за 30 километров.

Пообщаться со сверстниками, в кино, театр или прочие развлекательные места едет в Минск, и такая поездка, как правило, планируется не на день: автобус из Обольцев в районный Толочин отправляется под вечер и 30 километров одолевает за час 40 минут; затем поезд или электричка – и в столице окажешься посреди ночи.

Все остальное – в порядке, утверждает Волоткевич. Зарплата молодого руководителя сельской амбулатории – приблизительно 400 долларов вместе с надбавками, положенными молодому специалисту на селе, – завидная для периферии (средняя зарплата в Беларуси не достигает обещанных президентом Лукашенко 500 долларов; заработки на селе, как правило, вдвое-втрое ниже городских).

Амбулатория, где начальствует Виталий Владимирович, – аккуратная и оснащенная всем необходимым небольшая поликлиника с дневным стационаром, кабинетом физиопроцедур, лабораторией, зубоврачебным кабинетом и аптечным киоском. Коллектив, по его словам, отличный.

Вот только оставаться в Обольцах молодой врач не собирается. Признается: старается с зарплаты подкопить «для нового старта».

«*В деревне ты на обочине жизни получаешься. Деревня доживает свой век, молодежь тут не остается. Перспектив нет*», – констатирует молодой врач.

## Стать звездой

31-летний **Денис Никифоров** – знаменитость не только районного масштаба. Школу в агрогородке Осиновка, где работает директором Никифоров, знают и в стране, и в Европе: школа привлекла 32 тысячи долларов инвестиций, реализуя совместные с Программой развития ООН и Евросоюзом проекты.

«*Мы стали локомотивом инициатив*», – улыбается Денис Владимирович, подробно рассказывая, как в рамках одной из программ провели аудит затрат, переоснастили подсобные школьные помещения энергосберегающими лампочками, переоборудовали кухню и поменяли капающие краны на однорычажные, учили сельское население экономии – на школьном примере.

Сейчас школа занята еще и развитием экологического земледелия и предпринимательской инициативы на селе.

Необходимое пояснение: Осиновка хоть и в статусе агрогородка, но обыкновенная старая деревня. Большая по белорусским меркам – около 400 жителей. Двухэтажная кирпичная школа вмещает и детский сад, а потому официально учреждение называется длинно и по-чиновничьи мудрено.

В школе 50 учеников (в Осиновку приезжают еще из четырех окрестных деревень), в детсаду шесть воспитанников. Директор оснастил школу WiFi, но пароль – признается – меняет едва ли не каждое утро, чтобы дети не отвлекались во время уроков.

Денис родился и учился в Могилеве – крупном областном центре на юге Беларуси, а в Чаусский район (пострадавший от Чернобыльской аварии) попросился вслед за женой-однокурсницей.

По распределению молодые супруги – историки-археологи, согласно диплому – работали в школах разных деревень, но по истечении двух положенных лет отработки обосновались в райцентре Чаусы.

В Осиновку, за 15 километров от Чаусов, Денис Никифоров уже шесть лет приезжает каждое утро.

«*Если не любить место, где работаешь, не любить дело, которым занимаешься, – ничего не получится. А я так не могу. Если я что-то делаю, это должно быть лучше, чем у всех. Я здесь себя чувствую комфортно, чувствую поддержку своего коллектива, поддержку местных жителей и местных властей*», – говорит Никифоров.

«*Любой мегаполис, любой крупный город не может существовать без села. Кто-то должен здесь, на селе, быть. И кто, если не мы?*» – добавляет он.

Двое молодых педагогов, распределенных в Осиновку, остались работать в школе под руководством Никифорова и по истечении обязательного срока.

Сколько и в каких профессиональных сферах остаются после отработки молодые специалисты, доподлинно не известно – в ответственном за распределение выпускников Министерстве образования сообщили, что такая статистика не ведется.

## Перераспределиться

**Анатолий Маникало** уходил из столичной гимназии в IT-компанию через непростую процедуру перераспределения.

Фактически он отработал положенные два года, момент смены места работы пришелся на его законный учительский отпуск. Но и в отпуске распределенный молодой специалист «принадлежит» организации, в которую его направили.

Анатолию удалось перераспределиться по взаимной договоренности всех сторон: IT-компания оформила документ-заверение о готовности принять молодого специалиста на работу; руководство гимназии письменно подтвердило, что не против отпустить; затем все эти бумаги Анатолий предоставил в деканат университета.

Претендовать на перераспределение могут беременные, инвалиды, семейные и другие «льготники». В Положении о распределении есть ряд пунктов (например, ликвидация компании-нанимателя или сокращение штатов), которые также дают основания для перераспределения.

Если новая нужная вакансия не найдется, выпускник может получить так называемый свободный диплом. Но при этом он теряет статус молодого специалиста и обещанные статусом льготы (на прописку, жилье, подъемные выплаты и т.п.).

И особым порядком решается, придется ли обладателю свободного диплома возмещать стоимость своего обучения.

В гимназию, которая считается лучшей в белорусской столице, вместе с Анатолием Маникало пришли по распределению еще 10 молодых педагогов. После отработки положенных двух лет остались двое; освободившиеся места вновь заполнили специалистами по распределению.

*– Почему уходят? Низкая зарплата – ставка молодого учителя примерно 55 долларов. Работал на полторы ставки, плюс всевозможные доплаты (например, за победу моей ученицы на олимпиадах) – получалось долларов 200–230. Но главное, с чем не смог смириться, – с отношением к нам, молодым учителям, как к рабам подневольным. Мы должны были гнать классы заполнять трибуны на стадионах, мыли полы в кабинетах, выслушивали многочасовые головомойки и делали массу всяких других бессмысленных дел,* – рассказывает Анатолий.

Признается: скучает по своим гимназистам и поддерживает с ними контакт, мотивируя на развитие. «*И в этом единственный плюс моей двухлетней отработки*», – говорит он.

## Откупиться от государства

**Маша Русина** при поддержке родителей от белорусского государства «откупилась» – выплатила Гродненскому аграрному университету всю начисленную за годы обучения сумму, получила диплом и уехала за границу.

Говорит, что диплом регионального вуза обошелся ее семье в 5000 долларов «с хвостиком».

Суммы возмещения рассчитывает деканат, они превышают стоимость всего срока обучения и разнятся в зависимости от вуза: недавний выпускник столичного Белгосуниверситета утверждает, что «откупился» за 12.500 долларов, и это дороже, чем если бы учился на платном.

Маша Русина разлюбила выбранную специальность агронома уже во время студенческой практики, когда постижение тонкостей специальности оборачивалось неквалифицированной работой на колхозных полях.

*– На данный момент у меня свой бизнес по импорту итальянского вина в Польшу, я занимаюсь его оптовой и розничной продажей. У меня есть свой винный бар во Вроцлаве,* – рассказывает девушка. В винном баре она начинала официанткой и только спустя годы выкупила бизнес, стала владельцем фирмы.

*– Лучшая сторона моей нынешней работы – поездки по винодельням Италии, дегустация и выбор вина. Я прошла курсы сомелье. В чем-то мне даже пригодилось мое образование, потому что виноград – это растение, ботаника. Но одного белорусского университетского образования мне точно было бы недостаточно, чтобы заниматься моим бизнесом*, – говорит Маша.

Сменить специализацию без отработки по распределению в Беларуси ей не удалось бы. Даже поступившие в магистратуру обязаны отработать свои два (или больше) года после выпуска.

## Систему распределения распространят на «платников»

Отсутствие свободы выбора, необязательность предоставления декларированных льгот, несоответствие практической работы полученной специальности, низкие зарплаты и отсутствие перспектив – вот малый перечень претензий противников распределения.

Главный козырь сторонников – государство предоставляет молодому специалисту гарантированное рабочее место. С запросами от предприятий и учреждений можно познакомиться заранее, можно отправиться на практику еще во время учебы, принести в вуз персональный запрос, если работодателя нашел сам (комиссия по распределению, впрочем, вправе этот запрос и отклонить).

Вице-премьер Василий Жарко в конце января поставил задачу: в нынешнем году распределение должно быть стопроцентным, то есть обязательным и для тех, кто платил в годы студенчества за учебу.

Министр образования Игорь Карпенко в середине июня сообщил, что более тысячи «платников» из нынешнего выпуска (примерно 1/30-я часть) уже попросили распределения.

Белорусские чиновники не скрывают: распределение помогает «закрыть» прежде всего финансово непривлекательные вакансии. Даже в Минске к нынешнему распределению было свободно более 400 мест для врачей, 359 – для инженеров, 516 – для медсестер, 153 – для менеджеров…

– Нормальные ребята приходят по распределению, подготовка хорошая, а опыта наберутся – если захотят. Но вот чуть наберутся опыта, отработают обязательный срок – и, как правило, уходят. В Россию едут, идут в частные центры – там зарплата не сравнима с нашей зарплатой участкового в поликлинике. Молодые сейчас хотят денег, перспектив, свободы, – рассказывает Ольга С., заместитель главврача одной из минских поликлиник.

Ольга просит не называть ее настоящее имя – с некоторых пор почти всем госслужащим в Беларуси запрещено общаться с прессой без одобрения высокого министерского начальства, которое можно получить только через соответствующую пресс-службу.

– Такая вот «свобода». Попадаешь в систему – и тоже как крепостной. С дипломом, – поясняет врач.

**Татьяна МЕЛЬНИЧУК,**
**Татьяна ЯНУЦЕВИЧ.**

(Русская служба BBC.)

## *ОТ РЕДАКЦИИ*

*Вот так авторы подали проблему, связанную с системой распределения выпускников белорусских вузов, трудностями, которые им приходится преодолевать в первые годы работы. Примеры, приведенные в материале, хотя и являются в некоторой степени типичными, но не дают полной картины жизни молодых специалистов. И «Народная Воля» хотела бы продолжить разговор на эту тему, услышать не только тех, кто остался недоволен первыми результатами трудовой деятельности, но и тех, у кого всё сложилось нормально, кто видит четкую перспективу, доволен всем, что преподнесла ему жизнь. Что касается государственной политики в отношении выпускников вузов, то здесь, понятно, немало нерешенных вопросов. И об этом хотелось бы также повести серьезный разговор. Ждем писем!*

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ



# Слуцкія паясы – для карысці ці для красы?

Ужо чатыры гады ў Слуцку працуе фабрыка па вытворчасці знакамітых слуцкіх паясоў. Помніцца, адкрывалі яе з вялікай помпай, з удзелам высокага начальства. Тады ж быў агучаны дзіўны лозунг: слуцкі пояс – у кожны беларускі дом. Прагучала і больш канкрэтная парада – паясы тыя прапаноўвалася… вешаць на абразы.

Ніхто ў той момант высокаму начальству не патлумачыў, што абразы ў Беларусі спрадвеку ахіналіся ручнікамі-набожнікамі. Паясамі людзі падпярэзваліся. Часам, праўда, з іх шылі святарскае ўбранне – арнаты, але каб на абразы вешаць… Да такога не дадумаўся нават самы эксцэнтрычны з князёў Радзівілаў – Пане Каханку, хоць паясы тыя ткаліся на яго фамільнай фабрыцы-персіярні.

Дык ці апраўдаў сябе канвеерны выпуск слуцкіх паясоў у XXI стагоддзі? Колькі іх сёння вырабляецца і ці карыстаюцца яны попытам? Пра гэта я вырашыў даведацца, завітаўшы ў Слуцк.

Аказалася, у фабрычнай краме "Слуцкія ўзоры" тыя паясы прадаюцца толькі па… папярэднім заказе. Хочаце купіць – давайце аванс, і вам будуць ткаць. Каштуюць яны нятанна – ад 2000 да 6000 рублёў. Звычайным беларусам такі тавар яўна не па кішэні. А таму пакуль што ці не адзіны заказчык – Адміністрацыя прэзідэнта, якая набывае паясы для дыпламатычных прэзентаў. Зразумела, замежныя госці паясы тыя з удзячнасцю прымаюць (падараванаму каню ў зубы не заглядаюць), але, падазраю, ставяцца да іх як да сувеніраў-падробак.

Чаму як да падробак? Мяркуйце самі – на выраб аднаго слуцкага пояса Радзівілы выдаткоўвалі са сваёй скарбніцы да 200 грамаў золата. "Ткаць залатыя паясы" – гэта не паэтычная прыдумка Максіма Багдановіча. Яны насамрэч былі залатыя. Што да сучасных паясоў, падараваных замежным прэзідэнтам ці паслам, то яны *трохі* падзалочаныя. Згадзіцеся, залаціць з радзівілаўскай шчодрасцю – залатога запасу ў Нацбанка не хопіць.

Чаму ж абмінаюць краму "Слуцкія ўзоры" заможныя беларусы? Гаманлівая прадавачка з сумам прыгадала, што сёлета яна збыла толькі адзін пояс – прадпрымальніку з Гродна. Цікава, што ён будзе рабіць з тым поясам? У даўнія часы шляхціц падпярэзваўся ім паўзверх традыцыйнага адзення – кунтуша і жупана. Выйсці ў слуцкім поясе – гэта быў своеасаблівы рытуал. Як гэты рытуал упішаш у сучаснасць? Ніяк. Слуцкі пояс на палітончык аршанскага вырабу ці на пінжак, пашыты гомельскім "Камінтэрнам", не завяжаш.

Зрэшты, справа не толькі ў адзенні. Неабходна аднавіць у грамадстве дух шляхецтва. Умоўна кажучы, трэба, каб масавыя гістарычныя рэканструкцыі ў нас не на "Лініі Сталіна" пад крыкі "ўра!" ладзіліся, а ў адноўленых магнацкіх палацах пад паланэз Агінскага.

Тая ж прадавачка пахвалілася, што сякім-такім попытам карыстаюцца фрагменты пояса ў выглядзе пано. Яны адразу і ў рамачку ўзяты, і каштуюць усяго 20–30 рублёў. Дык навошта тады ўвогуле выраблядь паясы даўжынёй некалькі метраў? Ці не лепш адразу на вялікіх пано-дыванках ткаць розныя патрэбныя абліччы? З арыентацыяй на Азію, адкуль да нас тыя паясы і прыйшлі. Прылятае ў Мінск які-небудзь шэйх ці султан – прыміце, панок, ад нас дыванок з вашым партрэтам. Глядзіш, і перамовы пайшлі б больш жвава і зацікаўлена.

Зрэшты, у Беларусі падобная азіяцкая традыцыя выглядала б усё ж дзіўнавата. Як, помніцца, дзіўнавата глядзелася шматаблічны "габелен веку" Аляксандра Кішчанкі. Кажуць, яго ўжо даела моль. Праўда, габелен той ад пачатку выглядаў парадыйна – хто з палітыкаў на ім ніжэй, хто вышэй, хто – з німбам, хто – без… Як парадыйна на пачатку 1990-х гучаў і перароблены кімсьці багдановічаўскі верш "Слуцкія ткачыхі": "*Цямнее край зубчаты бору, / і тчэ, забыўшыся, рука / заміж персідскага узору / партрэт Зянона Пазьняка*".

Нічога не паробіш, творы мастацтва падрабляюцца столькі часу, колькі існуе само мастацтва. І слуцкія паясы – не вынятак. Яшчэ дзвесце гадоў таму французскія шахраі на мануфактуры ў Ліёне капіравалі вырабы слуцкай персіярні і нават вышывалі на іх фірмовы знак: "Зроблена ў Слуцку". Паводле падлікаў мастацтвазнаўцы Маі Яніцкай, у свеце існуе каля тысячы (!) несапраўдных слуцкіх паясоў. І адрозніць іх часам бывае няпроста. Падробкі трапілі нават у падрыхтаваны спецыялістамі альбом "Слуцкие пояса в граде Слуцке" (2006). Са змешчаных там 57 выяваў 17 – гэта падробкі.

Кошты арыгінальных слуцкіх паясоў на замежных аўкцыёнах вагаюцца ад 50.000 да 300.000 долараў. Думаецца, на адбудову слуцкай фабрыкі пайшло таксама нямала. А ці не лепей было б тыя бюджэтныя сродкі патраціць на набыццё арыгіналаў, якіх у Беларусі да крыўднага мала? Нават у фабрычным музеі няма. Ці хай бы наша дзяржава ўзяла прыклад са светлай памяці гісторыка Генадзя Каханоўскага. Будучы дырэктарам Мінскага абласнога музея, ён у свой час паехаў у Маскву і ў Рускім дзяржаўным музеі выменяў слуцкі пояс. Відаць, падобны абмен магчымы і сёння, і за які-небудзь парадны партрэт расійскай імператрыцы ў той жа Маскве ці Пецярбургу далі б не адзін пояс. А ў нашым Мастацкім музеі заадно і месца вызвалілася б – для сваіх шэдэўраў.

Слуцкія залататканыя паясы ў Вялікім Княстве Літоўскім сімвалізавалі гонар, годнасць і нябедны статус шляхціцаў. Трапляліся паясы і з Пагоняй, што ўвогуле выглядала пэўным выклікам Расійскай імперыі. Нездарма цар, далучыўшы "*под сень двуглавого орла*" беларускія землі, забараніў і шляхту, і кунтушы, і слуцкія паясы.

Зразумела, Пагоня на сучасныя паясы не трапіла. Засталіся на іх толькі палітычна нейтральныя кветкавыя арнаменты.

Як расказваў мне Максім Лужанін, у 1944 годзе, пасля савецкай нацыяналізацыі віленскага Беларускага музея імя Івана Луцкевіча, жонкі мінскіх партбосаў са слуцкіх паясоў шылі сабе… тапачкі.

Думаецца, падобнае "абясцэньванне" можа чакаць і сучасныя паясы. Пакуль беларус не адчуе сябе духоўным спадкаемцам ліцвінскай шляхты, слуцкі пояс яму ніяк не спатрэбіцца. І карысці з усёй прадукцыі слуцкай фабрыкі будзе – з жабіны прыгаршчы.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## А з вышыні прарок выказвае папрок

Карэспандэнт tut.by правёў эксперымент на вуліцах Мінска. Ён прасіў падказаць дарогу да той ці іншай установы. На пытанне "Дзе знаходзіцца музей Янкі Купалы?" не адказаў ніхто.

Для беларусаў як прарок
(Прынамсі, лічым так)
Купала.
Аднак жа, сэнсу папярок,
Цяпер яго чытаем мала.
Для дзецюка і хлапчука
Купала недзе там, далёка:
Не прыгадаюць і радка
Свайго няшчаснага прарока.
І – апагей: карэспандэнт
Не ў захалусці ціхім дзесьці,
А ў Мінску свой эксперымент
Рашыў на вуліцах правесці.
Ён стаў цікавіцца ў людзей:
– Скажыце мне – зрабіце
ласку:
А дзе Купалаўскі музей?
Ніхто не здолеў даць падказку.
Дзе бар піўны ці казіно,
Было б падказак да халеры.
А дзе музей… Усё адно,
Што ён на Марсе ці Венеры…
А з вышыні глядзіць прарок.
Не можа выказаць нічога –
Ні свой дакор, ні свой папрок.
Як папярэджанне ад Бога,
Пужае той дакор нямы…
* **
Я ўсё ж прагноз зрабіць
бяруся,
Што да музея дойдзем мы.
Ці дойдзем мы да Беларусі?..

## Хіба ж не злыдзень зяць, што можа цесця «здаць»?

Рэктара сельгасакадэміі ў Горках асудзілі за карупцыю: ён фіктыўна ўладкаваў на працу лабарантам свайго зяця. Гэты ж зяць і "здаў" рэктара праваахоўнікам, калі развёўся з ягонай дачкой.

Як пра цешчу мы гамонім
(Хоць яна і не твая),
Дык адзін і той сінонім
Часта чуецца – "змяя".
Хтосьці нават крые матам…
Так было спакон вякоў:
Цешча – ворагам заклятым
Для жанатых мужыкоў.
Як пра цесця мы гаворым,
Дык інакшы каленкор:
Цесця хвалім ледзь не хорам,
І не чуецца дакор.
Можна выпіць грам
па дзвесце
(Пляшку выставіць на стол
Ёсць заўжды жаданне
ў цесця),
А затым размовы весці
Пра палітыку, футбол;
Можна з'ездзіць на рыбалку,
Бавіць час у гаражы…
Бы яго мы знаем змалку,
Ён – як бацька, не чужы.
Нават і пасля разводу,
Калі цесць ужо былы,
З ім заўжды знаходзім згоду,
Словы ёсць для пахвалы.
…А была ж раней часіна,
Калі шчасце йшло ў руку.
Зяця цесць прыняў як сына,
Рады быў і за дачку.
Цесць для зяця – за куміра,
Бо яны адна сям'я.
(Зяць лічыў, напэўна, шчыра,
Што і цешча – не змяя.)
Навучальнай установы
Цесць ягоны на чале!
Самавіты, уплывовы –
Бог не ўсім такога шле.
Нават зяця ў лабаранты
Залічыў "падпольна" цесць:
Хай сабе купляе транты,
На халяву п'е і есць.
Шчасце выпала такое –
Хоць сто год не памірай!
Ды між зяцем і дачкою
Нечакана ўзнік раздрай.
Разышліся маладзёны,
Як у моры караблі.
Зяць раз'юшаны, шалёны,
І пра помсту клёк ягоны
Думкі гнюсныя гнялі.
Перш на цесці-небараку
Ён спагнаў чамусьці злосць.
Каб таму далі пад ср…ку,
Расказаў усё як ёсць
Пра заробкі на халяву.
(Сам ён чысценькі такі!)
Сапраўды прышылі справу
"Злыдню цесцю" следакі.
* * *
Цесць асуджаны законна…
Не магу ніяк дапяць,
Хто з герояў фельетона
Большы злыдзень –
цесць ці зяць?

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Як дыпламаты азеленялі цэнтр дзіцячай анкалогіі ў Бараўлянах

*Пасольства Германіі ў Беларусі разам з прадстаўнікамі іншых дыпламатычных місій краін Еўрасаюза правяло незвычайную акцыю.*

ДАВЕДКА

*Еўрапейскі тыдзень кліматычнай дыпламатыі бярэ пачатак з 2014 года, калі Германія і Вялікабрытанія заснавалі Дзень кліматычнай дыпламатыі. Гаворка ідзе пра мерапрыемствы, з дапамогай якіх прадстаўніцтвы Германіі за мяжой сумесна з прадстаўніцтвамі іншых краін Еўрасаюза хочуць прыцягнуць увагу да праблемы кліматычных змен.*

*Цэнтральнай тэмай Тыдня кліматычнай дыпламатыі ў гэтым годзе з'яўляўся так званы дыялог "таланоа". Слова "таланоа" паходзіць з мовы фіджы і азначае канцэпцыю вядзення перамоў, сутнасць якой заключаецца ў тым, каб збірацца разам, абмяркоўваць у тым ліку і спрэчныя тэмы і закончыць абмеркаванне толькі тады, калі будзе знойдзена канчатковае рашэнне.*

*Дарэчы, на канферэнцыі ААН аб змене клімату, якая праходзіла ў 2017 годзе ў Боне, міжнародная супольнасць прызнала сваю прыхільнасць да Парыжскага пагаднення 2015 года, у якім краіны-ўдзельніцы ўзялі на сябе адказнасць зрабіць сусветную эканоміку экалагічнай і ўтрымліваць рост глабальнага пацяплення ніжэй за 2 градусы. Канферэнцыя ў Боне праходзіла менавіта пад старшынствам Фіджы, а метад "таланоа" быў паспяхова выкарыстаны ў Германіі на карысць клімату ва ўсім свеце.*



У межах Тыдня кліматычнай дыпламатыі дыпламаты краін Еўрасаюза наведаліся ў Бараўляны ў Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр дзіцячай анкалогіі, гематалогіі і імуналогіі. Прыехалі Пасол Германіі ў Беларусі Петэр Дэтмар, прадстаўнікі Еўрасаюза ў Беларусі, пасольстваў Вялікабрытаніі і Францыі, былі на мерапрыемстве і беларускія чыноўнікі…

Пакуль не пачалося афіцыйнае мерапрыемства, **Петэр Дэтмар** і старшыня Мінскага гарадскога камітэта прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя **Сяргей Масляк** абмяркоўвалі экалагічныя праблемы.

– Прыроду можна і трэба вяртаць у гарады і захоўваць яе, – ўпэўнены нямецкі дыпламат. – У Германіі, напрыклад, стараюцца пераканаць людзей, каб яны па меры магчымасці адмаўляліся ад выкарыстання аўто. І, дарэчы, многія ўжо аддаюць перавагу веласіпедам. Гэта і здароўю на карысць, і эканомія сродкаў, і экалагічная сітуацыя паляпшаецца. Шмат увагі надаецца таксама экалагічнасці і энергаэфектыўнасці дамоў. Нават танныя крэдыты можна на гэта ўзяць. Акрамя таго, у многіх еўрапейскіх гарадах развіваецца пчалярства, азеляняюцца дахі. Пакуль што ўсё гэта знаходзіцца ў межах інтэлектуальных кропкавых праектаў, але наша задача заключаецца ў тым, каб перанесці гэтыя высілкі ў школу. Трэба звярнуць увагу дзяцей на экалагічныя праблемы, якія існуюць ва ўсім свеце і якія, дарэчы, сам чалавек і стварыў. Трэба навучыць маладое пакаленне абыходзіцца з навакольным асяроддзем лепш, чым гэта рабілі мы.



Пасол Германіі ў Беларусі Петэр Дэтмар.

– Цалкам з вамі згодны, – пагаджаецца **Сяргей Масляк**. – *На жаль, сёння некаторыя дзеці не могуць адрозніць бярозу ад асіны. Неабходна экалагічная адукацыя.*

На тэрыторыі дзіцячага анкалагічнага цэнтра супрацоўнікі Пасольства Германіі ў Беларусі пасадзілі 28 клёнаў (менавіта такая колькасць краін-удзельніц Еўрасаюза), а затым і яшчэ адно, 29-е, дрэва, якое сімвалізавала краіну-партнёра – Беларусь. Сабраліся работнікі медыцынскай установы, дыпламаты, прадстаўнікі мясцовай улады…





З гумарам падзякавала дыпламатам намеснік дырэктара цэнтра **Наталля Канапля**:

– Удзячна, што менавіта наш цэнтр абраны для правядзення акцыі, якая, як мне падаецца, не саступае нават такой падзеі, як чэмпіянат свету па футболе, што праходзіць гэтымі днямі.

Яе падтрымала старшыня Бараўлянскага сельскага выканкама **Жанна Верабей:**

– Прыемна, што гэтая цудоўная ініцыятыва рэалізуецца ў дзіцячым анкалагічным цэнтры. На тэрыторыі сельсавета дзесяць буйных медыцынскіх устаноў, таму такія мерапрыемствы, якія накіраваны на захаванне здаровага ладу жыцця, экалагічнай культуры, не могуць не радаваць. Нам трэба захоўваць зялёныя куточкі і памнажаць іх.

– Пра экалагічныя праблемы мы кажам ужо не першы год, і тыя, хто прафесійна займаецца гэтымі пытаннямі, ведае, наколькі цяжка ва ўсім свеце дасягаць згоды па іх вырашэнні, – дадае **Петэр Дэтмар**. – Самыя важныя дакументы тут – Парыжскае пагадненне і Павестка дня ААН у галіне ўстойлівага развіцця на перыяд да 2030 года, якія з'яўляюцца важнымі інструментамі ў барацьбе за чыстае паветра. Як гэтага дасягнуць? Па-першае, трэба за экалогію змагацца ў паўсядзённым жыцці. Менш карыстацца аўтамабілямі, больш рабіць экалагічныя пабудовы. Па-другое, з боку прамысловасці таксама павінны быць зроблены сур'ёзныя высілкі ў гэтым накірунку. Трэба азеляняць нашу зямлю, саджаць дрэвы, якія перапрацоўваюць вуглякіслы газ. Таму і было вырашана ў межах Тыдня кліматычнай дыпламатыі пасадзіць клёны на тэрыторыі клінікі. Тут мы, як кажам, забіваем адразу двух зайцоў: і тэрыторыя медыцынскага цэнтра стане больш зялёнай, і прырода скажа нам дзякуй!

**– Як вам ініцыятыва нямецкага пасольства?** – пацікавіўся я ў старшыні Мінскага гарадскога камітэта прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя.

– Яна проста цудоўная! – шчыра адказаў Сяргей Міхайлавіч. – Азеляненне горада можна толькі вітаць. Мы, дарэчы, таксама надаём гэтаму шмат увагі. У 2016 годзе з'явілася ідэя стварэння ў Мінску экалагічных сцяжынак, і сёння ў нас ёсць ужо восем зялёных маршрутаў.

Дарэчы, Сяргей Масляк запрасіў нямецкага пасла Дэтмара 22 верасня на акцыю "Дзень без аўтамабіля". Для вадзіцеляў, якія адмовяцца ў гэты дзень ад паездкі на асабістых аўто, праезд у грамадскім транспарце будзе бясплатны, а ў Мінску на вуліцы Леніна пройдуць розныя святочныя мерапрыемствы. Пасол даў папярэднюю згоду.

Напрыканцы акцыі ў Бараўлянах я пацікавіўся ў Петэра Дэтмара, ці не з'яўляецца ён сам садаводам-аматарам.

– А як жа! – адказаў дыпламат. – У Германіі ў мяне цудоўны сад. Калі прыязджаю дадому, мы з жонкай шмат працуем, каб прывесці яго ў нармальны выгляд. У садзе – яблыні, грушы, японская дэкаратыўная вішня. Там я проста адпачываю…

**Алесь СІВЫ.**

*Фота аўтара.*

ДЫПКУР'ЕР

# У пасольстве Пакістана новы амбасадар

*Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Ісламскай Рэспублікі Пакістан у Рэспубліцы Беларусь стала Ліна Салім Моазам, дыпламат з вялікам стажам. Папярэдняй краінай, дзе яна кіравала дыпмісіяй Пакістана да прызначэння ў Беларусь, была Партугалія.*

А днямі Ліна Салім Моазам сустрэлася з міністрам замежных спраў Беларусі **Уладзімірам Макеем** з нагоды ўручэння ёю копій даверчых лістоў (*на фота*).

*"Бакі абмеркавалі актуальныя пытанні беларуска-пакістанскага супрацоўніцтва ў палітычнай, гандлёва-эканамічнай і культурнай сферах і адзначылі неабходнасць істотнага нарошчвання двухбаковага тавараабароту і актывізацыі ўзаемадзеяння па лініі профільных працоўных груп у абласцях прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі і адукацыі,* – паведамілі ў МЗС Беларусі. – *Асобнай тэмай абмеркавання стаў ход падрыхтоўкі двухбаковых мерапрыемстваў, у тым ліку прымеркаваных да 25-гадовага юбілею з дня ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Пакістанам, які будзе адзначацца ў лютым 2019 года".*




Трэба адзначыць, што на фоне такіх доўгіх дыпламатычных адносін паміж краінамі Пасольства Пакістана ў Беларусі пачало працаваць толькі тры гады таму – у 2015-м. Ліна Салім Моазам – другі амбасадар дыпмісіі гэтай ісламскай рэспублікі. Першы – **Масуд Хан Раджы** пакінуў нашу краіну з прычыны завяршэння сваёй кадэнцыі ў Беларусі ў студзені гэтага года.

Што тычыцца беларуска-пакістанскіх адносін, то яны развіваюцца досыць актыўна, хаця дасягнуць у 2017 годзе тавараабароту з Пакістанам у 1 мільярд долараў, што планавалася і што, паводле слоў **Аляксандра Лукашэнкі,** *"можна нават без напружання"*, не атрымалася. У 2017 годзе тавараабарот склаў толькі 75 мільёнаў долараў ЗША. Праўда, гэта больш, чым у 2016 годзе, калі гэты паказчык склаў 65 млн 532,2 тыс. долараў. Летась у Пакістан было экспартавана беларускіх тавараў на суму 64,3 млн долараў (тэмп росту 127,5 працэнта). Імпарт пакістанскай прадукцыі ў Беларусь у 2017 годзе склаў 10,6 млн долараў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

УВЛЕЧЕНИЯ

## Полковник юстиции на Эльбрусе

Сотрудник Государственного комитета судебных экспертиз Беларуси **Дмитрий Романюго** покорил вершину самой высокой точки Европы – Эльбруса. На вершине горы он расправил флаг Государственного комитета судебных экспертиз Республики Беларусь.

Вместе с минчанином гору удалось покорить еще двоим туристам-альпинистам. Хотя был момент, когда из-за сильного мороза, пронизывающего холодного ветра и метели один из участников экспедиции на высоте 4900 метров вынужден был развернуться, так и не достигнув вершины Эльбруса – 5416 метров над уровнем моря.

В прошлом году Дмитрий Романюго совершил подъем на Говерлу – самую высокую гору и наивысшую точку на территории Украины. Высота горы составляет 2061 метр над уровнем моря.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

СЛЫШАЛИ?

## Чехи построят свинофермы

Как рассказал в интервью чешскому изданию Hospodarske Noviny председатель совета чешской компании Bauer Technics Павел Рампир, уже подписаны контракты на строительство на территории Беларуси пяти комплексов по выращиванию свиней и крупного рогатого скота. Стоимость каждого из них оценивается примерно в 30 миллионов евро, значит, проект обойдется Беларуси в 150 миллионов евро.

Первую свиноферму чехи возводят под Оршей, и этот проект должен быть реализован до конца лета этого года. Всего сотрудничество Bauer Technics рассчитано до 2022 года.

К слову, Bauer Technics уже работает на белорусском рынке. Компания построила крупный свинокомплекс (на 48 тысяч голов) в Борисовском районе. Его стоимость составила 35 миллионов евро.

О ЧЕМ ГОВОРЯТ...

# Эрдоган может править до 2028 года

*В Турции прошли президентские выборы. Изначально они должны были состояться в 2019 году, однако действующий президент Реджеп Тайип Эрдоган решил сдвинуть дату.*



Еще до подсчета всех голосов избирателей Эрдоган в обращении к сторонникам заявил, что, по данным с избирательных участков, он побеждает на президентских выборах без второго тура. Позже ЦИК страны сообщил, что Тайип Эрдоган набрал 52,5% голосов, а его основной соперник Мухаррем Индже – 33,7% голосов избирателей.

Сразу после выборов в Турции вступит в силу радикальная реформа государственного устройства, одобренная с перевесом всего в три процента на референдуме 16 апреля 2017 года. В результате Турецкая республика из парламентской превратится в суперпрезидентскую.

Нынешний президент Реджеп Тайип Эрдоган, инициатор этой реформы, небезосновательно надеется переизбраться и стать и главой исполнительной власти, и законодательной инстанцией, притом оказаться практически неподотчетным парламенту и вдобавок получить возможность оставаться у власти еще полтора десятка лет.

### Какие права получит президент

Во-первых, президент станет главой исполнительной власти – премьер-министра, утверждаемого парламентом, больше не будет. При этом президент не будет подотчетен парламенту.

Во-вторых, президент получит право издавать указы, которые будут иметь силу закона.

Президент будет сам назначать одного или нескольких вице-президентов и членов правительства.

### Сколько сможет править президент

Формально в принятой на референдуме редакции Конституции есть ограничение: два срока по пять лет.

Но турецкие и иностранные комментаторы указывают на уловку, которой может воспользоваться президент. Дело в том, что по новой Конституции выборы президента и парламента всегда должны проходить одновременно. То есть, если президент решает уйти в отставку досрочно или же парламент досрочно самораспускается – переизбираются и президент, и депутаты.

При этом если президент уходит досрочно из-за самороспуска парламента, то этот прерванный срок в лимит не засчитывается.

То есть если парламент решит провести досрочные выборы до конца второго срока президента, то президент сможет баллотироваться на третий срок (если об отставке заявит сам президент – то не сможет).

Таким образом, теоретически Реджеп Тайип Эрдоган при условии лояльного парламента может править до 2028 года, незадолго до истечения срока устроить внеочередные выборы – и остаться у власти еще на пять лет.

Сейчас Эрдогану 64 года, он руководит страной с марта 2003 года, когда он стал премьер-министром. Президентом он стал в августе 2014 года (этот длящийся до сих пор срок тоже не засчитывается в лимит в два срока).

Турция переживает непростые времена с 2016 года, когда произошла попытка переворота. Турецкие власти обвинили в этом проживающего в США духовного лидера Фетхуллу Гюлена, а также сторонников возглавляемого им движения «Хизмет». Сам Гюлен все отвергает.

По данным ООН, в результате правительственной стратегии закручивания гаек и борьбы с инакомыслием более 160 тысяч человек в Турции оказались за решеткой после попытки переворота.

ПУЛЬС

## Цены на нефть резко упали

Страны ОПЕК и не-ОПЕК провели в субботу переговоры в Вене и договорились об увеличении добычи нефти на 1 млн баррелей в сутки при выходе на 100%-ное исполнение ранее взятых на себя обязательств по ограничению добычи нефти.

И сразу после этого цена августовских фьючерсов на нефть Brent на лондонской бирже опустилась на 1,24 цента и составила 74,31 доллара за баррель. Стоимость фьючерса на нефть WTI на август на электронных торгах NYMEX снизилась на 12 центов – до 68,46 доллара за баррель.

Еще недавно цены на нефть достигали 80 долларов за баррель.

## Ягланд за Сенцова

Генеральный секретарь Совета Европы Турбьерн Ягланд подал официальное прошение президенту России Владимиру Путину о помиловании украинского режиссера Олега Сенцова, который в 2015 году был приговорен к 20 годам лишения свободы в колонии строгого режима по обвинению в терроризме и который держит голодовку в тюрьме.

К слову, сам Сенцов, по словам его адвоката Дмитрия Динзе, отказался писать просьбу о помиловании на имя Владимира Путина. Динзе заявил, что из-за продолжающейся голодовки у Сенцова начались проблемы с почками и сердцем, поэтому он в основном лежит.

## Названа стоимость саммита США–КНДР

В МИД Сингапура сообщили, что на организацию встречи лидера КНДР Ким Чен Ына и президента США Дональда Трампа 12 июня было потрачено около 12 миллионов долларов. Об этом говорится в комментарии на сайте внешнеполитического ведомства.

Отмечается, что самой большой статьей расходов стала безопасность.

## Священника посадили в тюрьму

Итальянский священник и бывший дипломат Карло Альберто Капелла приговорен к пяти годам тюремного заключения за хранение детской порнографии. Осужденный признал вину.

Ранее стало известно, что по обвинениям в сексуальных домогательствах в Австралии перед судом предстанет казначей Ватикана, кардинал Джордж Пелл. Более 30 свидетелей в марте дали показания в ходе предварительных слушаний в суде, длившихся четыре недели. Часть слушаний проходила в закрытом режиме. Священнослужитель категорически отрицает все обвинения.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Музей валуноў



Беларусы з даўніх давён кланяліся і пакланяліся камяням. Кланяліся, калі да сёмага поту стараліся выбраць іх з кожнага сялянскага поля, а тыя, як жывародныя, усё вылузваліся і вылузваліся з зямлі. Кланяліся, будуючы з іх крэпасці і замкі, палацы і цэрквы, стайні і свірны, брукуючы грукатлівыя гасцінцы. І паважалі, як належыць, за іхні сталы ўзрост і асаблівую надзейнасць.

З далёкіх дахрысціянскіх часоў беларусы верылі ў цудадзейную сілу камянёў, шанавалі іх як сімвалы боскіх істот. Нашы даўнія продкі лічылі, што сімвалам бога Перуна, напрыклад, з'яўляецца каменная сякера. Ёю сівабароды грамабой рассякае чорныя хмары і апладняе зямлю дабрадзейным дожджыкам. Яшчэ і дагэтуль можна знайсці на палях тыя "Перуновы стрэлы". Лічылася, што каменная сякера абараняе ад злых духаў, спрыяе ўрадлівасці і пладавітасці, ратуе ад хваробы. Меркавалі, што чалавека з такой сякерай не зачэпіць ні д'ябал, ні маланка.

З асаблівай пачцівасцю ставіліся беларусы да культавых камянёў, камянёў-прошчаў, следавікоў з адбіткамі слядоў Хрыста, Багародзіцы, святых угоднікаў. У дні свят да іх ладзілі хросныя ходы, богаслужэнні, ім прыносілі ахвяры, каля іх будавалі капліцы, цэрквы.

Магутныя ледавікі яшчэ задоўга да з'яўлення першых пасяленцаў на беларускай зямлі не раз і не два старанна прасавалі яе, пакідаючы пасля сябе мноства вялізных і важкіх валуноў. Багата іх сталі пазней сапраўднымі абярэжнікамі і ахоўнікамі нашага краю. Яшчэ і сёння можна пакланіцца гэтым шурпатым скандынаўскім прышэльцам, папрасіць у іх заступніцтва, дапамогі і спрыяння сабе і свайму народу, спазнаць іх дабратворны ўплыў. Зрабіць гэта можна не толькі ў запаведна-святых месцейках Беларусі, дзе захоўваюцца культавыя камяні, а і ў Музеі валуноў, які знаходзіцца пад адкрытым небам ледзь не на галоўным праспекце нашай сталіцы. Гэты ўнікальны для Беларусі і ці не адзіны ў свеце музей створаны ў 1985 годзе як Эксперыментальная база па вывучэнні ледавіковых валуноў пры Інстытуце геалагічных навук Нацыянальнай акадэміі навук.

Каля 3 тысяч рэдкіх гістарычных памятак звезена ў Мінск з усіх куткоў нашай зямлі. Збочыўшы з шумных гарадскіх вуліц на ціхі поплаў, што ля мікраараёна "Уручча", можна сустрэцца не толькі з Перуном і Даждбогам, Князь-каменем і Вялесам, Асілкам і Святым каменем, але і са Змеем, Чортам і іншымі нячысцікамі, якія таксама ўсяляліся ў камяні. Можна без перасцярогі рукамі пакратаць найстаражытнейшы музейны экспанат Беларусі – валун, якому больш за 2 мільярды гадоў.

З біблейскіх часоў вядома, што грэшнікаў збівалі камянямі, неслухі ператвараліся ў валуны. "Каб ты каменем стаў!" – дагэтуль клянуць у нас благога чалавека. Нават Закон Майсея, як сведчыць Біблія, быў накрэслены на камянях: "І звярнуўся Гасподзь да Майсея: падыміся да мяне на гару, і будзь там; і дам табе скрыжалі з каменя, і закон, і запаведзі, якія я напісаў для навучання іхняга".

Ці не з той пары з'явілася ў беларусаў звычка рабіць на камянях надпісы? Выдатнымі помнікамі эпіграфікі XII стагоддзя – своеасаблівага каменнага пісьма – з'яўляюцца знакамітыя Барысавы камяні, што знаходзіліся ў рэчышчы Заходняй Дзвіны. "Господі помозі рабу своему Борисоу", – гэткі надпіс-заклінанне высечаны на іх па загадзе полацкага князя Барыса. Адзін з сямі гэтых камянёў называўся Барыс-Хлебнік. Як казалі, ён "выходзіў з вады" напярэдадні дня святых пакутнікаў Барыса і Глеба – 24 ліпеня. У гэтую пару звычайна пачыналася жніво, што і засведчана ў прымаўцы: "На Глеба-Барыса за хлеб бярыся". Зараз Барыс-Хлебнік спачывае ля знакамітага Сафійскага сабора ў Полацку.

У Аршанскім раёне доўга захоўваўся знакаміты на ўсю Еўропу Рагвалодаў камень з надпісам: "В лето 6679 (1171) месяца мая в 7 день доспен крест сей. Господи помози рабу своему Василию в крещении Рогволоду сыну Борисову". Гэты надпіс-маленне зрабіў князь пасля галоднай зімы ў спадзеве на будучы добры ўраджай. Легенды апавядаюць, што камень стаяў на чатырох нагах, быў падобны на звера, меў каменную галаву, з якой тамтэйшы млынар зладзіў пазней жорны. Ды камень не толькі сам змалоўся ў пясок, але і перамалоў увесь набытак і ўсё сямейства млынара.

Некаторыя даследчыкі называлі гэты помнік прыроды дальменам – найстаражытным збудаваннем накшталт вялізнай каменнай скрыні, накрытай пляскатай плітой, якая мела свой унутраны аб'ём. Згадваюць, што і пад Рагвалодавым каменем часта хаваліся ад дажджу мясцовыя сяляне. У 1805 годзе над ім была збудавана капліца, на пакланенне ў якую сцякаліся вернікі з многіх ваколіц.

Прыкладу князёў следаваў і люд паспаліты. У мінскім Музеі валуноў захоўваецца камень з надпісам жыхара вёскі Бярозаўка Маладзечанскага раёна Адама Галдакоўскага. На валуне выбіты лічбы "1842" і лацінскія літары "AN". Гэткім чынам увекавечаны год куплі зямлі і ініцыялы яе ўладальніка.

Пашанотнае стаўленне да валуноў як да надзеленых вышэйшай сілай і адухоўленых спрыяльнікаў чалавека выявіліся ў вырабе каменных ідалаў і крыжоў. У музеі захоўваецца крыж, каля якога, кажуць, у час Лівонскай вайны абедаў кароль польскі і вялікі князь літоўскі Стэфан Баторый. На крыжы выбіты рыцар з каронай і надпіс – "RSB": Rex Stefan Batory.

На Лепельшчыне некалі ляжаў на беразе Варанецкага возера легендарны камень, на якім, згодна з паданнем, у 1426 годзе абедаў вялікі князь літоўскі Вітаўт Вялікі. Пра гэта сведчылі шэсць паглыбленняў на валуне, за што яго празвалі талеркамі Вітаўта. Там жа, на беразе ракі Ушачы, знаходзіўся яшчэ адзін помнік даўніны – Вітаўтавы відэльцы.

Пра камяні народ склаў безліч паданняў, легенд, показак. Некалі, даўным-даўно, калі яшчэ Бог хадзіў па зямлі, на месцы возера Бяздоннае ў сённяшнім Слонімскім раёне была вёска. У яе і зайшоў Гасподзь у адзенні жабрака. Старац прасіў у людзей хоць кавалак хлеба. Ды людзі адварочваліся ад яго. Толькі адна кабета літасціва падала падарожнаму пахкі бохан. Бог параіў ёй сысці з вёскі, а па дарозе не азірацца. Але кабета не стрымалася – перамаглі цікаўнасць і незвычайны шум за спінай. Калі яна павярнула галаву, вёскі ўжо не было. На яе месцы плёхала хвалямі вялізнае возера. А ўсе берагі былі ўсеяны камянямі. У іх ператварыліся былыя аднавяскоўцы. Не паспела жанчына падзівіцца незвычайнаму відовішчу, як і сама яна сталася каменем у выглядзе жаночай постаці з доўгай касой.

Паданні пра ператварэнні людзей і жывёл у камяні жывуць сярод многіх народаў. А вось легенды аб камянях-краўцах і шаўцах бытуюць толькі ў беларусаў.

Яшчэ не так даўно ў Талачынскім раёне ляжаў вялізны квадратны камень, які называлі Сцяпанам. На яго месцы даўней жыў рупны майстар-кравец. Ахвотна выконваў ён людскія заказы. Ды нечым не дагадзіў нячыстай сіле, і тая пакарала майстра, ператварыла Сцяпана ў камень. Аднак і камень не страціў сваіх кравецкіх здольнасцяў. Дастаткова было вечарам пакласці на камень тканіну і папрасіць: "Сцяпан, пашый каптан", як досвіткам усё было гатова. Ды аднойчы нейкі неразумны жартаўнік задумаў выпрабаваць чароўную сілу каменя. "Сцяпан, – папрасіў ён, – зрабі мне ні тое ні сёе". Зайшоўся ад крыўды камень і з тае пары перастаў шыць. Вось так: не гнявіце дабрачыннасць.

Ёсць у музеі валун з незвычайнай назвай Дзед. Прывязлі яго са старажытнага мінскага капішча – культавай святыні язычнікаў, дзе людзі пакланяліся сваім дахрысціянскім багам. Ажно да самага пачатку XX стагоддзя дзейнічала гэтае старадаўняе свяцілішча на беразе Свіслачы, дзе сённяшняя вуліца Лодачная.

Многія камяні праз вякі хаваюць свае таямніцы, не хочуць адкрываць іх людзям. З вёскі Стайкі Лагойскага раёна прывезены ў музей некалькі валуноў з разнастайнымі дагэтуль не разгаданымі знакамі на іх. Гэтыя малюнкі пераклікаюцца з аналагічнымі знакамі на камянях у наваколлі Ноўгарада, якія ў сваю чаргу нагадваюць наскальныя малюнкі ў Швецыі, зробленыя 5 тысячагоддзяў таму.

Так, беларускія камяні можна чытаць як самую займальную кнігу. Можна слухаць іх як найцікавейшых суразмоўцаў. Можна захапляцца імі як самымі найшляхетнымі і найдасканалымі. Незвычайная музейная калекцыя – толькі маленечкая часцінка гэтых самавітых сведак і велічных помнікаў гісторыі. Гуляе над імі зімавей, дзюбаюць іх дажджы, руплівіцца вакол мурава, загарэлы чэрвень шчодра абсыпае досвіткавай расой – а ім з вышыні свайго спаконвечнага ўзросту ўсё гэта падаецца толькі дзіцячымі забаўкамі. Праз усё сваё невымерна доўгае жыццё годна і немітуслівa нясуць яны сваю адвечную вахту: спрыяюць людзям і аберагаюць іх ад злога. Бо гэтыя камяні – дзівосныя ахоўнікі спакою на маёй і тваёй Беларусі.

Дык не абмінайце ж сваёй увагай непаўторны і дзівосны музей валуноў, што знаходзіцца ў беларускай сталіцы, а таксама шматлікія камяні-памяткі, якіх так шмат захавалася на нашай зямельцы.

ПАМЯЦЬ

# Стук сэрца ў музеі Варшаўскага паўстання

Строгая цішыня, асцярожны шоргат крокаў наведвальнікаў, нягучная гаворка экскурсаводаў – гэта не пра музей Варшаўскага паўстання. Бо ён з самай раніцы напоўнены гукамі: трашчыць матор матацыкла, звініць тэлефон, даносяцца стрэлы з карабіна... А яшчэ, калі замерці і прыслухацца, можна пачуць стук сэрца. Сэрца народнага паўстання, якое пачалося 1 жніўня 1944 года тут, у Варшаве, і працягвалася 63 дні, пакуль не было жорстка задушана нямецкімі акупантамі.

Варшаўскае паўстанне – асаблівая, трагічная старонка ў гісторыі Польшчы. Старонка, якая доўгі час заставалася калі не замоўчанай, дык рэдка гартаемай. І на тое былі свае, горкія прычыны. Сёння палякі кажуць пра іх свабодна, праўда, з болем і крыўдай. Крыўдай на тых, хто ўлетку 1944-га стаяў з чырваназорнымі танкамі і гарматамі на другім беразе Віслы і не прыйшоў на дапамогу паўстанцам...

Нас, беларускіх журналістаў, якія прыехалі ў суседнюю краіну паглядзець, як тут даглядаюць вайсковыя пахаванні (матэрыял пра гэта «Народная Воля» апублікавала 12 і 15 чэрвеня), спецыяльна прывялі ў гэты музей, пашырыўшы рамкі тэматычнай праграмы. І дзякуй, што выйшлі за акрэсленыя рамкі. Таму што музей Варшаўскага паўстання, які адкрыўся 31 ліпеня 2004 года, паспеў за гэты кароткі час стаць знакавым месцам, можна нават сказаць – сімвалам польскай сталіцы.

Варшавяне марылі пра яго даўно, з моманту, як скончылася вайна. Але толькі ініцыятыва **Леха Качыньскага**, які стаў у 2002 годзе прэзідэнтам (мэрам) Варшавы, пераадолела ўсе перашкоды – і музей пабудавалі літаральна за чатыры месяцы, арганізаваўшы кругласутачную, у тры змены працоўную вахту. Так, новы будынак узводзіць не сталі – вырашылі, што выдатна падыдзе пад задуманую канцэпцыю былая трамвайная электрастанцыя, пабудаваная яшчэ ў 1904–1908 гадах. Так і выйшла: чатыры паверхі з дыхтоўнай цёмна-чырвонай цэглы выдатна ўмясцілі на плошчы 3000 квадратных метраў больш за 700 экспанатаў і 1000 фатаграфій. А таксама ўсё інтэрактыўнае начынне: старадаўнія тэлефоны, па якіх можна «датэлефанавацца» да паўстанцаў, хто выжыў у тым пекле, і пачуць іх галасы, макет у натуральную велічыню амерыканскага бамбардзіроўшчыка Liberator B-24J, з якога саюзнікі скідвалі паўстанцам зброю і прадукты, кампактная кіназала, дзе можна паглядзець 3D-фільм «Горад руін», зманціраваны з фатаграфій, зробленых над разбуранай немцамі Варшавай пілотамі-антыфашыстамі.



Напэўна, нам пашанцавала, што нас вадзіў па велізарных залах музея вельмі дасведчаны і неабыякавы гід Дарыюш Зялёнка. Пан Дарыюш распавядаў пра паўстанне эмацыйна, але без таго пафасу, якім часта грашаць музейшчыкі. Ну так, скідвалі бамбардзіроўшчыкі-«ліберэйтары» на паўсталую Варшаву кантэйнеры з ваеннай і гуманітарнай дапамогай, але настолькі недакладна, што большая частка грузаў трапляла ў рукі задаволеных такім ходам падзей немцаў. Тыя яшчэ жартавалі наконт гэтага: што не змаглі пакаштаваць у Лондане – з'ядуць у Варшаве. Але хто сказаў, што ў апісанні вайны забараняюцца добры гумар і самаіронія? Бо менавіта гэтыя якасці нярэдка ратавалі жыццё людзям у той страшны час.

У музеі звычайна вісяць надпісы, якія забараняюць краtаць экспанаты. А тут усё наадварот: старыя рэчы літаральна просяцца, каб да іх дакрануліся. Стары тэлефонны дыск, абломак сцяны, грузавы кантэйнер – нібы дакранаешся да гісторыі. А калі гэта падземны лабірынт, які імітуе камунікацыі ваеннай Варшавы, па якіх паўстанцы перабіраліся з аднаго гарадскога квартала ў іншы, ну як у яго не зазірнуць? Услед за шматлікімі школьнікамі і энтузіястамі-дарослымі, якія не саромеюцца праяўляць у гэтых сценах дзіцячую цікаўнасць. Дарэчы, па нядзелях музей прымае наведвальнікаў бясплатна – і перад уваходам выстройваюцца доўгія чэргі, якія, трэба сказаць, дзякуючы прафесійнай працы музейнага персаналу вельмі хутка разрульваюцца.

А яшчэ ў гэтым музеі можна ўзяць некаторыя рэчы на памяць. Напрыклад, лісткі календара за тры трагічныя месяцы 1944-го года, што доўжылася Варшаўскае паўстанне. Копіі, вядома. Але вельмі-вельмі падобныя на сапраўдныя артэфакты.

**Людміла СЯЛІЦКАЯ.**
*Мінск–Варшава–Мінск.*

**P.S.** Рыхтуючы матэрыял да друку, паглядзела, што выдае на тэму Варшаўскага паўстання інтэрнэт. Інфармацыі больш чым дастаткова. Але працытаваць хаця б у скарочаным выглядзе душа просіць верш Уладзіміра Высоцкага, напісаны ў 1973 годзе, калі ён з Масквы праз беларускі Брэст ехаў у Варшаву. Верш малавядомы, які не афішаваўся па зразумелых прычынах у савецкія гады, але надзіва актуальны і сёння.

*В моем мозгу, который вдруг сдавило*
*Как обручем (но так его, дави!),*
*Варшавское восстание кровило,*
*Захлебываясь в собственной крови...*

*Дрались – худо-бедно ли,*
*А наши корпуса*
*В пригороде медлили*
*Целых два часа.*

*В марш-бросок, в атаку ли*
*Рвались как один,*
*И танкисты плакали*
*На броню машин...*

*Почему же медлили*
*Наши корпуса?*
*Почему обедали*
*Эти два часа?*

*Потому что танками,*
*Мокрыми от слез,*
*Англичанам с янками*
*Мы утёрли нос!*

**На здымку: вокны разбуранай Варшавы.**

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак у №№31–50.)*

## Дзеці жывуць і працуюць у Нямеччыне, а іх бацькі гінуць на радзіме

З Магільнага немцам удалося падманам, гвалтам вывезці на працу ў Нямеччыну каля дзесяці чалавек. Адбылося такое ў час, калі ўся "ўлада" ў мястэчку была ў руках партызан. Ніякія лісты ў Магільнае з Вуздаў не дасылаліся, а бацькам вельмі хацелася ведаць, як жывецца іх дзецям на чужыне. Даводзілася самім пешшу хадзіць у Вузду. Гэтага не маглі не выкарыстаць у сваіх агентурных мэтах адпаведныя акупацыйныя службы Вузды, хаця нашы цывільныя людзі валодалі вельмі скупымі звесткамі пра партызан. Яны ж не мелі ў Магільным свайго штаба, а знаходзіліся тут часцей за ўсё праездам, робячы прывал на шляху да якога-небудзь месца прызначэння. Будучы праціўнікамі такіх кантактаў з Вуздой бацькоў вывезеных немцамі дзяцей, партызаны ішлі на прыняцце жорсткіх захадаў. У адну з лютаўскіх ці сакавіцкіх начэй 1943 года яны, маючы наводчыка з ліку магільнянскіх партызанаў, забралі ўсю сям'ю Сцяпана Казака (кажуць, што яго жонка з двума малымі дзецьмі сама пажадала падзяліць лёс гаспадара) і гаспадара сям'і Наўроцкіх (па-вулічнаму) Міхася Цыбульскага. Усіх іх адвезлі не так далёка ў лес і расстралялі, як след не закапаўшы ў зямлю, хаця тою зімою яна неглыбока прамерзла. Праз тры-чатыры дні ваўкі адшукалі калектыўную магілу і па-свойму расправіліся з мерцвякамі. Па вопратцы магіляне пазналі сям'ю Казака, а таксама Міхася Цыбульскага. Што далей было зроблена з тымі "знаходкамі", мне не вядома.

Пра тое, хто быў наводчыкам з магільнянскіх партызанаў, людзі загаварылі напаўголасу мо гадоў праз дзесяць пасля вайны. Імі лічылі тых, хто некуды з'ехаў з дома і амаль не з'яўляўся да родных, ці баючыся помсты, ці перажываючы за свой учынак.

У тую ж "варфаламееўскую ноч" Магільнага развіталіся з жыццём даволі адметныя асобы. Сцяпан Казак быў першым у калгасе трактарыстам, да таго ж высокай на той час кваліфікацыі. І па сёння памятаю, як кіраўніцтва сельскага савета і калгаса даверылі яму на трактары адвезці на поле каля дзесяці вазоў гною, прычапіўшы адзін да аднаго. Рабілася гэта дзеля таго, каб паказаць перавагу трактара над конямі. Сабралі вялікую колькасць піянераў (сярод іх быў і я), і яны пад гукі горна і ўдары барабана рушылі ўслед за гэтым незвычайным абозам, а па прыбыцці на вызначанае месца праспявалі колькі піянерскіх песень. Старэйшая дачка Сцяпана Казака Жэня была добра вядомай у школе актывісткай, ахвотна працавала з піянерамі. З яе сястрой Нінай я вучыўся ў адным класе. Ёй пашчасціла: у самыя трагічныя для яе сям'і дні яна гасцявала ў сваёй роднай цёткі ў Койданаве і засталася ў жывых. У Магільнае ніколі не паказвалася. Яе стрыечная сястра Маня пасля вайны вучылася са мною ў Мінскім статыстычным тэхнікуме, і я праз яе рэгулярна перадаваў прывітанне Ніне.

Да вайны Міхась Цыбульскі не раз выбіраўся за брыгадзіра калгаса, бо ўмеў добра ладзіць з людзьмі, лічыўся за справядлівага чалавека.

Ні ў час жорсткай расправы з сям'ёй Казака і Цыбульскім, ні пазней ніхто ў Магільным не лічыў іх за здраднікаў. Павагай карысталіся пасля вяртання дамоў з Нямеччыны і іх дзеці Валодзя Казак і Паўлік Цыбульскі. Вось толькі любоў да чаркі (а прычынай гэтаму магла быць і расправа партызанаў над іх бацькамі) не дала радаснага, працяглага жыцця ні аднаму, ні другому. Не сумняваюся, у партызанаў меўся і іншы сродак спыніць кантакты з Вуздою сем'яў вывезеных у Нямеччыну дзяцей, але толькі ніхто не шукаў яго. За лепшае палічылі фізічную расправу са "здраднікамі" ў надзеі, што ўсё можна будзе спісаць на вайну і акупацыю.

## Ад голаду паміраць не збіраліся

Зброю ўзяла ў рукі і пачала барацьбу з ворагам толькі нязначная частка з агульнай колькасці жыхароў Магільнага. Асноўная ж маса іх займалася ў гады акупацыі звычайнай для мірнага часу працай. Да вясnова-палявых работ 1943 года яны падрыхтаваліся непараўнальна лепш, чым год таму. Некаторыя з найбольш дбайных гаспадароў выйшлі ў поле з такімі конямі, сельскагаспадарчым інвентаром, што ўсяму гэтаму маглі б па-добраму пазайздросціць і многія з тых, хто ўсё жыццё аднаасобна працаваў на сваім надзеле, не ведаў, што такое калгасная вытворчасць. У нашай сям'і якіх-небудзь істотных перамен у матэрыяльнай базе аднаасобнай сельскай гаспадаркі не адбылося. Адзінае, у чым мы выглядалі лепш, чым у мінулым сезоне, – гэта прыбаўка аднаго года да майго ўзросту. Я і сам заўважаў, што стаў дужэйшым, смялей браўся за выкананне таго ці іншага віду сельскагаспадарчай працы.

Гаспадары з добрымі коньмі, дасканалымі прыладамі працы ў вельмі кароткія тэрміны закончылі сяўбу і без усялякай каманды зверху больш як за дзесяць гадоў да закліку першага сакратара ЦК КПСС Мікіты Хрушчова пачалі займацца асваеннем цалінных і абложных земляў, якіх за час існавання ў Магільным калгаса значна павялічылася. Большасць з іх зарасла маладым хвойнікам. Людзі з сякерамі і рыдлёўкамі пачалі карчаваць яго. Проста на вачах мяняўся звыклы ландшафт: там, дзе ўчора раслі маладыя хвоўкі, сёння было ўжо ўсё заворана. У час кароткага перадыху я з зайздрасцю пазіраў за ўвішнымі, поўнымі сілы гаспадарамі. Не адводзіла ад іх вачэй і мама. З яе вуснаў я аднойчы пачуў, што атрыманай намі ў прыватную ўласнасць зямлі будзе мала, калі павырастаюць сыны і пачнуць ствараць сем'і. Давядзецца яе купляць за немалыя грошы. Выходзіць, мама не верыла ў вяртанне савецкай улады з яе калгаснай, нелюбімай многімі сістэмай.

За вясновую сяўбу моцна стаміліся і я, і мама. З'явілася магчымасць трохі адпачыць. Як я не выкарыстаў: на наступны дзень пайшоў у лес паглядзець на вядомае мне колішнее поле за тры кіламетры ад Магільнага, таксама зарослае маладым хвойнікам. Прыгледзеўся, ці дадзім мы з мамай рады выкарчаваць яго. Упэўніўся, што дадзім. З такім бадзёрым настроем пайшоў дахаты і сваёй задумай падзяліўся з мамай. Яна адразу стала на мой бок, толькі вось бяда – у яе назаўтра не было часу. Паехалі на дзень пазней. Узялі з сабой сястру Ліду, каб яна рыдлёўкай засыпала ямкі, утвораныя пасля выкарчоўвання дрэўцаў. За колькі метраў да меркаванага месца працы заўважылі, што тут вядуць раскарчоўку маладняку дзядзька Варвон са сваёй жонкай Надзяй. Я спыніў каня і стаў раіцца з мамай, што нам рабіць у такой сітуацыі. Не паспелі ацаніць абстаноўку, як пачулі трохі хрыпаваты голас Варвона, які звяртаўся да мамы:

– Жэнька, чаго вы спыніліся? Ездзьце, зямлі хопіць і вам, і мне. Я не збіраюся ўсю плошчу раскарчоўваць. Вось не захацелася дома сядзець, дык і я вырашыў трохі павялічыць свой надзел. Сіла ж ёсць, і конь не вельмі перапрацаваўся за час сяўбы.

Яго словы нас абрадавалі, і мы дружна, у вялікую ахвоту ўзяліся за справу, дый так, што нават прыцягвалі да сябе ўвагу Варвона. Ён проста здзіўляўся нашай дабрыні.

– Жэнька, – з усмешкай на твары загаварыў дзядзька Варвон, – нас так захапіла ваша праца, што мы вырашылі з жонкай саступіць вам ладны кавалак зямлі. У нас жа дзяцей няма. Хопіць нам і паловы з таго, на што мы раней замахнуліся.

Гэтыя шчыра сказаныя словы ўсіх нас вельмі абрадавалі, добра падбадзёрылі да працы. Доўжылася яна каля тыдня. Адваяванае ў леса поле, упару засеянае, давала надзею лепш забяспечыць сям'ю збожжам. Як-ніяк да атрыманага пры ліквідацыі калгаса зямельнага ўчастка дадалося, прычым бясплатна, каля паўтара гектара. Вегетацыйны перыяд 1943 года стаўся вельмі спрыяльным для ўраджаю ўсіх сельскагаспадарчых культур. Мы забілі ўсё гумно снапамі. Калі я прывёз апошні воз, мама выйшла з хаты са словамі:

– Сынок, ні да калгаса, ні пасля яго арганізацыі наша сям'я не была такой багатай, як сёлета. Мы заўсёды мелі патрэбу ў хлебе, часам недаядалі. Цяпер жа гэта зусім не будзе нас хваляваць. Як гэтаму ўсяму радавацца б наш бацька!

Мама гаварыла чыстую праўду. Праблемы з хлебам у нас не існавала. Дый не толькі з хлебам. У хляве гадаваліся дзве свінні, тры авечкі. Мелі добрую карову. Радаваў конь, якога я за некалькі літраў самагонкі прыдбаў ранняй вясной 1943 года ў партызанаў. На момант гэтай здзелкі ён быў безнадзейна загнаны, не мог доўгі час стаяць на нагах, усё ляжаў і ляжаў у хляве. Мяне гэта асабліва не хвалявала, бо каня ж набыў амаль дарма. Затым конь пакрысе пачаў набірацца сілы. У гэтым вялікая заслуга мамінага брата партызана Валодзі – даваеннага выпускніка ветэрынарнага тэхнікума. Пастаўлены агульнымі намаганнямі на ногі конь паспяхова справіўся з вясновымі палявымі, летне-асеннімі ўборачнымі работамі. Адным словам, акупацыя не прымусіла нас галадаць. Таму паспрыяла эфектыўнае вядзенне прыватнай сельскай гаспадаркі. Толькі ёй мы абавязаны тым, што ў 1943 годзе жылі непараўнальна лепш, чым ва ўсе папярэднія гады з таго моманту, як у 1926 годзе Міхась і Жэня пабраліся шлюбам і была створана наша сям'я. Магчыма, калі б хтосьці сказаў тое ж пра 1943 год, я не паверыў бы, калі б не быў непасрэдным удзельнікам той стваральнай працы.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

КРУТА!

# Віцебск – першы

*А за ім кожная бібліятэка краіны – абласная, гарадская і раённая – бясплатна атрымаюць усе кнігі нобелеўскага лаўрэата Святланы Алексіевіч на роднай мове.*

Гэта ні ў якім разе нельга назваць словам «мерапрыемства», якое гучыць як строгая каманда станавіцца ў строй. Не, родную літаратуру так не прымусіш палюбіць. Таму, акрамя двух дзясяткаў бібліятэчных работнікаў, нікога больш у абласную бібліятэку Віцебска "добраахвотна-прымусова" не запрашалі.

Але бібліятэчная зала была набіта біткам!

Проста ў цэнтры горада на вуліцы Леніна амаль тыдзень вісеў вялізны плакат-запрашэнне з фота пісьменніцы. Напэўна, гэта здарылася ўпершыню ў Беларусі: фота Святланы Алексіевіч і яе прозвішча вялікімі літарамі нарэшце з'явіліся на плакаце, размешчаным на фасадзе прыгожага будынка на цэнтральнай вуліцы горада. І побач ясна і выразна: «Прэзентацыя поўнага збору твораў "Галасы Утопіі"».




На сустрэчы з чытачамі ў Віцебскай абласной бібліятэцы выступіў старшыня праўлення ААТ "Белгазпрамбанк" Віктар Дзмітрыевіч Бабарыка. Дзякуючы менавіта яму і ажыццяўляецца грандыёзны праект: пяцітомнік Святланы Алексіевіч на беларускай мове – у кожную бібліятэку. Так, народ актыўна збіраў сродкі на краўдфандынгавай платформе "Улей", каб кнігі нобелеўскага лаўрэата былі выдадзены на беларускай мове. Але львіную долю грошай даў усё ж такі «Белгазпрамбанк».

Тым не менш Віктар Дзмітрыевіч палічыў патрэбным удакладніць:

– Мы не аўтары ідэі, мы той бок, які яе стаў развіваць. Ідэя выдаць кнігі Алексіевіч на роднай мове належыць самой Алексіевіч. І на самай справе праблема была зусім не ў тым, дзе знайсці грошы, каб выдаць нобелеўскага лаўрэата, – такая пастаноўка пытання наогул смешная. Была іншая задача: зрабіць праект па-сапраўднаму народным. Таму што творчасць Алексіевіч – гэта размова з народам. І трэба данесці яе словы да кожнага жыхара краіны. Менавіта гэта задача заахвоціла нас удзельнічаць у праекце. Тым больш што бібліятэк у нас становіцца ўсё менш... Спатрэбілася ўсяго толькі тры тысячы камплектаў, каб ахапіць усе бібліятэкі краіны.

Валянцін Акудовіч, перакладчык кнігі "У вайны не жаночы твар", прызнаўся, што большую частку тэксту перакладаў з валідолам пад языком: "Там столькі болю, столькі няшчасця, што сэрца спатыкалася – не я". Далей з хваляваннем рэзюмаваў:

– Абсалютна адказна сцвярджаю, што гэта грандыёзны, геніяльны праект, які, напэўна, ніколі больш не паўторыцца, і не толькі ў нас у Беларусі. Я ў захапленні, гэта неверагодна: абсалютна ўсе бібліятэкі атрымаюць пяць кніг Алексіевіч! Гэта важна для культуры Беларусі ўвогуле. Так складвалася стагоддзямі: у гісторыі Еўропы мы былі, як быццам нас не было. І з гэтага "не было" так цяжка зараз зацвярджацца, што мы ёсць... І ёсць са сваімі каштоўнасцямі! "Нобель" Святланы Алексіевіч вельмі важны для эвалюцыі нашай ментальнасці. А ўвогуле мы, пераклaдчыкі, страшэнна рызыкавалі. Базавая праблема была адна. Ведаеце, тады ў Расіі і ў Беларусі размаўлялі на руска-савецкім слэнгу. Так гаварылі героі Светы, і кнігі так напісаны. Але беларуская мова гэтага слэнгу не ведала. А перакладаць на нязграбную беларускую мову – Святлана Алексіевіч не пазнала б свае кніжкі, моўная стыхія была б іншай. Захаваць гэтую руска-савецкую трасянку ў беларускай версіі было вельмі складана. У яе кніг неверагодная энергетыка. Талент? Так, але столькі выслухаць болю і слёз!.. Якім чалавекам трэба быць, акрамя таленту!

Магчыма, самым яркім, па меншай меры нечаканым і кранальным, момантам на сустрэчы стала выступленне віцебскай школьніцы Марыі Паўлавец. Пасля таго як вядучая прачытала ўрывак з кнігі «У вайны не жаночы твар», у якім жанчына ўспамінае, як вярнулася з вайны дадому, а яе не пазнала ўласная дачка, якая ўцякала ад цёткі ў салдацкіх шараварах, выйшла на сцэну наша сучасніца, танюткая, бы вудачка, дзяўчынка. Яна хацела сказаць нешта сур'ёзнае, падрыхтаванае, але не вытрымала і ціхенька заплакала. Змагла толькі выціснуць з сябе: "Гэта мая прабабуля..." І толькі потым, крыху супакоіўшыся, прачытала свой маленькі даклад аб заслужаным урачы, прафесары-нейрахірургу Марыі Васільеўне Паўлавец.

Ну, а калі напрыканцы цёплай, хвалюючай сустрэчы ўсім жадаючым было прапанавана ўзяць – у падарунак, не купіць! – кнігу пісьменніцы з яе аўтографам, тады нават здарыўся невялікі гармідар каля дзвярэй. Хтосьці заўважыў, што людзі становіцца ў чаргу па другім разе. Арганізатары захваляваліся, сталі заклікаць "паршывальніку" да парадку. А я ўзрадавалася: прагнасць да кніг – якое выдатнае, забытае пачуццё! Але жыве! Значыць, ёсць будучыня ў беларускай літаратуры.

**Алена МАЛОЧКА.**

*Віцебск.*

ЧУЛІ?

# Вайсковыя могілкі патрабуюць беражлівага стаўлення

Чарговы скандал узнік вакол праблемы захавання беларускіх могілак. На гэты раз размова не аб Курапатах – аб мінскіх Вайсковых могілках, дзе на пачатку чэрвеня пачаліся работы па ўпарадкаванні тэрыторыі. Спецкамбінат робіць сваю справу так, як лічыць мэтазгодным, не кансультуючыся з гісторыкамі і краязнаўцамі. Таму прадстаўнікі грамадскасці прынялі адмысловую заяву, у якой, у прыватнасці, гаворыцца наступнае:

"Замест таго каб упарадкоўваць сапраўды недагледжаныя і аварыйныя пахаванні, руйнуецца агульны воблік могілак, якія з'яўляюцца ўнікальным помнікам гарадской культуры, месцам памяці і даследаванняў, месцам, якое не сорамна (было) паказаць турыстам і гасцям горада. Замест унікальных пахаванняў, унікальнага комплексу нацыянальнай культуры і памяці мы атрымліваем "зачышчаную" ад любой індывідуальнасці прастору.

Вайсковыя могілкі як культурны помнік стаяць у адным шэрагу з Літаратарскімі масткамі ў Санкт-Пецярбургу і Нова-Дзявочымі могілкамі ў Маскве, могілкамі Пер-Лашэз у Парыжы і Роса ў Вільнюсе, яны сталі месцам апошняга спачыну Янкі Купалы і Якуба Коласа, Паўлюка Труса і Кузьмы Чорнага, Усевалада Ігнатоўскага і Язэпа Барычэўскага. Пахаванні 1930-х гадоў, нават не дагледжаныя сваякамі, патрабуюць увагі і догляду, а не знішчэння і замены аднолькавымі камянямі".

Аўтары заявы патрабуюць:

"1) Спыніць работы для тэрміновага разбіральніцтва.

2) Высветліць, ці былі пройдзены ўсе неабходныя нарыхтоўчыя працэдуры ў Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь.

3) Забяспечыць навуковым наглядам дадзеныя работы.

4) Прыцягнуць вінаватых у парушэнні патрабаванняў ахоўнага абавязацельства да адміністрацыйнай адказнасці".

Сярод тых, хто падпісаўся, – неабыякавыя грамадзяне: настаўніца і пісьменніца Ганна Севярынец, культуролаг Юлія Чарняўская, краязнаўца Вадзім Зеляннкоў, заснавальнік партала "Тут.Бай" Юрый Зісер, архівісты Наталля Гардзіенка і Зміцер Дрозд, выдавец Марына Шыбко, літаратуразнаўцы Сяргей Шапран і Аляксандр Фядута, пісьменнікі Андрэй Жвалеўскі і Валерый Гапееў, гісторык Аляксандр Пашкевіч, тэатральны крытык і паэт Таццяна Мушынская, паэт Валярына Кустава, шмат іншых вядомых асоб. Зразумела, што громкіх заяў можна было б пазбегнуць, калі б прадстаўнікі адпаведных дзяржаўных службаў хаця б кансультаваліся з прафесіяналамі: ніхто ж не спрачаецца, што ўпарадкаваць могілкі сапраўды трэба, але ж так, каб яны заставаліся сапраўдным сведчаннем беларускай гісторыі XX стагоддзя, а не толькі аб'ектам камунальнай уласнасці. Быў бы побач з супрацоўнікамі ЖКГ гісторык альбо краязнавец – пытанняў, напэўна, не ўзнікла б. Месца, дзе знайшлі апошні прытулак Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны, заслугоўвае не толькі чысціні – у гэтым якраз працаўнікі ЖКГ маюць рацыю, – але ж і павагі, і ведання таго, што і як насамрэч трэба захоўваць для нашчадкаў.

**Алесь КЛЯЎЧУК.**



СЦЕНА

# Где Анисимов, там и слава

Маэстро Александр Анисимов вновь приглашен в Большой театр. Это третий приход дирижера в творческий коллектив Оперного, как по-домашнему называют у нас Национальный академический Большой театр оперы и балета Беларуси.

Впервые в Минске за дирижерский пульт в этом театре Анисимов встал еще в 1980 году – причем молодой выпускник Ленинградской консерватории занял сразу первую позицию. Через пять лет Анисимов уехал работать в Пермь – по причинам глубоко личного характера, но не без помощи ЦК КПБ. На Урале он, естественно, не затерялся: был главным дирижером оперного театра, впервые в СССР поставил оперу Сергея Прокофьева «Огненный ангел», которая прозвучала на всю страну. Параллельно приезжал в Ленинградский театр оперы и балета как приглашенный дирижер. А туда, в нынешний Мариинский, как известно, приглашают лучших.

И когда в начале 1990-х свежие ветры подули в нашей республике, Большой театр опомнился и снова призвал маэстро Анисимова к главному музыкальному пульту Большого театра, тем более за это время дирижер заработал звание заслуженного артиста. Это был сложнейший экономический период в стране, и на Большом это тоже, естественно, сказывалось: он разделился на два самостоятельных коллектива – оперу и балет. Но, помню, премьера следовала за премьерой. Хотя и в концертном исполнении. Да, балет под руководством Валентина Елизарьева всегда процветал. Наконец и опера стала выезжать на полноценные гастроли за границу – благодаря директору Сергею Альбертовичу Кортесу, не будем об этом забывать.

Но через десять лет, в 2002-м, на этот раз уже Министерство культуры отказалось от творческих услуг маэстро на посту главного дирижера Большого театра только по одним им ведомым причинам. Тогда Александр Михайлович сосредоточился на работе с государственным академическим симфоническим оркестром Беларуси, где он до сих пор является главным дирижером. Симфонические концерты под его руководством в Белгосфилармонии стали популярны в столице, как никогда. Как говорится, где Анисимов, там и публика, там и слава.

И вот третий приход маэстро в Большой театр. О нем сообщил на пресс-конференции по случаю открытия «Вечеров Большого театра в замке Радзивиллов» генеральный директор Владимир Павлович Гридюшко. Кроме того, народный артист Беларуси А.М.Анисимов станет советником гендиректора по вопросам перспектив музыкального развития театра. Красивый аккорд, не правда ли?

**Виктория ДРОЗД.**

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

## Ларыса Грыбалёва паехала ў Турцыю

*Разам з мужам і трыма дзецьмі спявачка праводзіць адпачынак у Кушадасах.*



Фотаздымак, які Ларыса павесіла у сацыяльных сетках, сабраў нямала водгукаў. *“Якая прыгожая сям’я!”, “Ларыса, ніколі і не скажаш, што вы мама траіх дзетак, выглядаеце як дзяўчынка-падлетак!”*

Ларыса Грыбалёва адпачывае ў пяцізоркавым гатэлі, аднак крыху скардзіцца на сэрвіс і анімацыю. Дарэчы, водгукі пра гэты турэцкі гатэль сапраўды не самыя станоўчыя, але калі побач родныя, сонца і мора, то нават на побытавыя дробязі можна заплюшчыць вочы і атрымліваць асалоду ад адпачынку.

## Ірына Яблонская шакіравана коштамі на беларускі адпачынак

*Урач-дыетолаг, аўтар кулінарнай кнігі “Ад сэрца да перцу” Ірына Яблонская шукае, дзе можна правесці адпачынак у Беларусі. У сацыяльных сетках Ірына папрасіла “здаць яўкі і паролі” самых лепшых беларускіх баз адпачынку.*



*“Мы з мужам вырашылі не ехаць на мора і акіяны гэтым летам, а адпачыць у роднай Беларусі*, – падзялілася Ірына сваімі планамі. – *Нашы пажаданні: не санаторый, але пажадана з басейнам, лес, добрае жыллё, прыгажосць вакол. Мне хацелася б ляжаць на шэзлонгу на беразе прыгожага возера, пад парасонам…”.*

У адказ Ірына атрымала шэраг самых розных рэкамендацый. Але аказалася, што правесці адпачынак у Беларусі у добрых умовах даражэй, чым на Сіцыліі! Дакладней, нават у самым дарагім замежным гатэлі будзе танней, чым на добрай беларускай аграсядзібе.

*“Патэлефанавалі амаль па ўсіх месцах, якія падказалі пад маім пастом пра адпачынак у Беларусі*, – пракаментавала Ірына Яблонская. – *Амаль нідзе няма месцаў. А там, дзе ёсць, за пражыванне ад 100 долараў у суткі і больш. 1000 ці 4000 долараў за 10 дзён. Што ж мы атрымаем за гэтыя грошы? Часцей за ўсё толькі адзін рэстаран з водгукамі “так сабе”, і больш нічога. Ні горнага паветра, ні марскога, сонца пад пытаннем, вада ў возеры халодная (я разумею, дзе жыву, але хочацца цяпла). Калі мы едзем за мяжу, то плацім не толькі за нумар у гасцініцы са сняданкамі, але і за агульны антураж – мора, сонца, пальмы, славутасці. У замежжы заробкі больш у абслуговага персаналу, камуналка завоблачная і падаткі больш! Значна больш! 100 долараў у суткі – гэта я яшчэ змякчыла. Дадайце сюды харчаванне, забавы і выйдзе 200 долараў у суткі. Гэта “сціплы” мінімум. Я не разумею, чаму ў Беларусі такія цэны...”*

## Дзмітрый Шэпелеў павёз сына ў Італію

*Днямі ў “Інстаграме” вядомы тэлевядучы, які нарадзіўся ў Беларусі, распавёў пра свой італьянскі адпачынак з сынам.*



“Шпацыруем па Фларэнцыі, – *падзяліўся некаторымі падрабязнасцямі Дзмітрый*. – Акуратна распавядаю Платону пра горад: фларэнтыйцаў і іх адвечных сапернікаў міланцаў. Пра статую Давіда – сімвал горада. Пра купал Дуома, які адзін з самых вялікіх у свеце і які як матрошка – два ў адным. Слухае напаўвуха, вядома.

– Тат, а давай, – кажа, – змутузім па дзве порцыі марожанага!

Вось і ўся экскурсія.

– Давай!

Выбраў ён кавуновае і лімоннае.

– Дай, – кажу, – паспрабаваць

Сам з дзяцінства памятаю: дасі даросламу паспрабаваць, ён як укусіць зубамі сваімі вялікімі – паловы адразу няма. Выходзіць, дарослы цяпер гэта я – лізнуў лімоннае і бачу – сын ледзь слёзы стрымлівае.

– Ты што?

– ...ты палову лімоннага з’еў...

– Ды я толькі разок... Ладна, пойдзем я табе вялікага дзіка пакажу. Ён выконвае жаданні тых, хто смелы, хто не баіцца да яго дакрануцца. І купім там яшчэ лімоннага. Ідзём?

– Добра. Але я еду ў цябе на плячах.

Вось так. Мастацтва праз марозіва. Мой хітрун. Люблю!

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ГОЛ

# «Нямецкая машына» паказала майстар-клас

*Зборная Германіі прайшла тэст на прафесійную прыдатнасць, а балельшчыкі аргенцінцаў трымаюць за каманду кукіш.*



Адным з самых драматычных матчаў чэмпіянату свету па футболе, які працягваецца ў Расіі, стала сустрэча паміж зборнымі Германіі і Швецыі. Напярэдадні немцы самі сабе стварылі праблему (прайгралі першы матч мексіканцам – 0:1), якую затым давялося гераічна пераадольваць. Больш за тое! Дзеючыя чэмпіёны прайгравалі пасля першага тайма шведам – 0:1, а ў другім ім давялося гуляць у меншасці. Але, як кажуць, у жыцці заўсёды ёсць месца для подзвігу. Зборная Германіі не толькі зраўняла лік, але на апошніх секундах дадатковага часу вырвала перамогу.

Трэба сказаць, што за такія матчы мы і любім футбол, хаця ўяўляю, колькі нерваў спалілі балельшчыкі зборнай Германіі. Але ж каманда яшчэ раз даказала, што яна па-ранейшаму з’яўляецца адным з фаварытаў турніру.

А вось зборная Аргенціны, нягледзячы на падтрымку славутага Марадоны, пасля двух матчаў мае толькі адно ачко (нічыя з ісландцамі – 1:1 і ганебнае паражэнне ад харватаў – 0:3), а таму ў апошняй гульні з нігерыйцамі чэмпіёнам свету 1986 года патрэбна толькі перамога. З гэтай нагоды сярод балельшчыкаў ужо нават ходзіць анекдот. У Марадоны пытаюцца: “Ці перамагла б сёння зборная Аргенціны ўзору 1986 года сённяшнюю каманду Ісландыі?” – “Перамагла б з лікам 1:0”. – “Чаму такі малы лік?” – “Дык сёння ж нам ужо па 60 гадоў…”

Зрэшты, балельшчыкі любой зборнай вераць у сваю каманду да апошняга. І нават тыя, хто ведае, што іх куміры пакідаюць чэмпіянат, напэўна, не асабліва засмучаюцца. Заўтра будзе новы дзень – будуць новыя перамогі.

**Алесь СІВЫ.**

### Матчы, якія адбыліся 21–24 чэрвеня

**21 чэрвеня**
Данія–Аўстралія – 1:1
Францыя–Перу – 1:0
Аргенціна–Харватыя – 0:3
**22 чэрвеня**
Бразілія–Коста-Рыка – 2:0
Нігерыя–Ісландыя – 2:0
Сербія–Швейцарыя – 1:2
**23 чэрвеня**
Бельгія–Туніс – 5:2
Паўднёвая Карэя – Мексіка – 1:2
Германія–Швецыя – 2:1
**24 чэрвеня**
Англія–Панама – 6:1
Японія–Сенегал – 2:2
Польшча–Калумбія – 0:3

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Аматары не толькі футбола…

*Калумбійскія фанаты пранеслі на матч з Японіяй алкаголь у фляжцы, якая выглядала як бінокль (па правілах, праносіць алкаголь на стадыён забаронена). Інфармацыя пра тое, як аматары футбола выпівалі, з’явілася ў сацыяльных сетках.*

У выніку адзін з “герояў” відэа Луіс Фэліпэ Гомес, які працаваў у авіякампаніі Avianca Holding, быў звольнены з працы. Авіякампанія з гэтай нагоды зрабіла заяву: «Avianca Holdings асуджае любыя дзеянні нашых работнікаў, якія супярэчаць каштоўнасцям і прынцыпам кампаніі. У сувязі з гэтым мы прынялі рашэннеануляваць працоўную дамову з нашым супрацоўнікам, які парушаў законы, прынятыя на чэмпіянаце свету, ужываючы алкаголь на стадыёне».

## Узбунтаваліся

*У выпадку сыходу з пасады галоўнага трэнера зборнай Аргенціны Хорхе Сампаолі належыць грашовая кампенсацыя ў памеры 20 мільёнаў долараў. Пра гэта паведамляе ТуС Sport.*

Паводле інфармацыі выдання, дамова 58-гадовага спецыяліста з Асацыяцыяй футбола Аргенціны разлічана да 2022 года, аднак пагадненне можа быць скасавана пасля Кубка Амерыкі-2019. У выпадку, калі трэнера звольняць да гэтага турніру, яму належыць кампенсацыя ў памеры 20 мільёнаў долараў.

Раней паведамлялася, што ігракі аргенцінскай зборнай не жадаюць бачыць Сампаолі ля руля каманды.

## Сорам!

*У Валгаградзе на матч Туніс–Англія (1:2) з футбалістамі павінен быў выйсці выхаванец сацыяльна-рэабілітацыйнага цэнтра з горада Камышына.*

Але яго, як стала вядома пазней, падмянілі на сына эканаміста гэтай жа ўстановы. Хлопчыка з забяспечанай сям’і часова залічылі ў дзённую групу, каб ён мог фігураваць у спісах як выхаванец прытулку.

Цяпер вядзецца афіцыйнае разбіральніцтва.

ШАХМАТЫ

## Вынаходца з Веткі




Сёлета 10 красавіка споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Майсея Барысавіча Неймана (1898–1967), вядомага навукоўца і шахматнага кампазітара. Нарадзіўся ён ў мястэчку Ветка на Гомельшчыне. З залатым медалём скончыў гімназію ў Бабруйску, вывучаў фізіку, матэматыку і хімію ў Петраградскім універсітэце (з перапынкам на службу ў Чырвонай Арміі ў час грамадзянскай вайны). Некалькі дзесяцігоддзяў працаваў у Інстытуце хімічнай фізікі ў Ленінградзе і Маскве. Доктар навук, прафесар, аўтар 600 навуковых манаграфій і артыкулаў.

Што тычыцца шахматнай кампазіцыі, то задачы М.Нейман пачаў складаць яшчэ гімназістам. Адзін з ранніх твораў прапануем чытачам для самастойнага рашэння *(гл. дыяграму).*

**Белыя:** Крd5, Фf8, Сс3, Сg6, пп. с4, f5, h3, h6 (8).
**Чорныя:** Крg5 (1).
**Мат у 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## «Кааператар» Нейман

У 1920-я гады М.Нейман быў актыўным удзельнікам Усесаюзнага таварыства аматараў задач і эцюдаў, сябрам рэдкалегіі альманаха “Задачы і эцюды”. Калі кіраўніцтва таварыства было рэпрэсавана, а альманах зачынены, на доўгі час адышоў ад складання, але ў 1960-я гады вярнуўся да кампазіцыі, стварыўшы шэраг цікавых задач.

Менавіта Нейман у свой час прапанаваў назву “кааператыўны мат” для жанру задач, у якіх чорныя пачынаюць і дапамагаюць (!) белым паставіць мат чорнаму каралю. Каб пашырыць змест такіх задач, Майсей Барысавіч упершыню ўвёў у іх некалькі рашэнняў (г.зв. “форма Неймана”), што з таго часу стала агульнапрызнанай практыкай. А “дэбютанткай” была наступная яго задача:

**Белыя:** Кра5, Фf2, Са4, пb5 (4).
**Чорныя:** Кре5, пb7 (2).
**Кааператыўны мат у 2 хады.**

Тут тры рашэнні (у гэтым жанры першымі запісваюцца хады чорных): 1.Кре4 Крb4 2.Крd3 Сс2х; 1.Крd5 Фе3 2.Крс4 Сb3х; 1.Крd6 Фf8+ 2.Крс7 b6х.

## Турнір ў Паднябеснай

У апошнія дзесяцігоддзі Кітай стаў адной з вядучых шахматных дзяржаў, найперш у жаночых шахматах. Вось і нядаўна кітаянка Цзюй Вэньцзюнь у матчы адабрала тытул чэмпіёнкі свету ў суайчынніцы – Тан Чжун’і. Напрыканцы вясны адбыўся таксама традыцыйны матч Расія–Кітай (сёлета перамаглі расіяне). А ў горадзе Цыньхуандаа прайшоў міжнародны турнір з удзелам беларусаў: гросмайстар Кірыл Ступак і майстар ФІДЭ Ланіта Сцяцко занялі адпаведна 4-е і 24-е месцы сярод 79 удзельнікаў. Пазнаёмім чытачоў з пераможнымі партыямі нашых суайчыннікаў.

***Кірыл Ступак – Масуд Масадэгпур***

1.d4 Кf6 2.c4 g6 3.Кc3 d5 4.Кf3 Сg7 5.cd К:d5 6.Кa4 Сf5 7.Кh4 Сd7 8.e4 Кb6 9.Кc5 e5 10.Кf3 ed 11.Сg5 Фc8 12.Фd2 Кa4 13.К:a4 С:a4 14.Сh6 С:h6 15.Ф:h6 Фe6 16.Фg7 Ф:e4+ 17.Сe2 Лf8 18.0-0 Кc6 19.Лfe1 0-0-0 20.b3 Фf4 21.g3 Фf5 22.ba Лg8 23.Фh6 d3 24.Сd1 g5 25.h3 Крb8 26.Крg2 d2 27.Лe2 Лd6 28.Фh5 Кd4 29.К:d4 Л:d4 30.Сb3 Лgd8 31.Лd1 c5 32.Ф:f7 Фc8 33.Фe6 Ф:e6 34.С:e6 Крc7 35.Сf5 h6 36.Сc2 c4 37.Лe3 Крc6 38.Крf1 a6 39.a5 Крb5 40.Лb1+ Крc5 41.Крe2 Л8d7 42.Крd1 Л4d6 43.Сf5 Лf7 44.g4 Крd5, 1:0.

***Чжу Цзэн’і – Ланіта Сцяцко***

1.e4 e5 2.Кf3 Кc6 3.Сc4 Сc5 4.0-0 Кf6 5.d3 d6 6.c3 a67. Сb3 Сa7 8.Кbd2 0-0 9.Лe1 Сe6 10.Кf1 С:b3 11.Ф:b3 Фd7 12.Кg3 Лab8 13.h3 Фe6 14.Фd1 d5 15.Фe2 de 16.de h6 17.Кf5 Кe7 18.К3h4 К:f5 19.К:f5 Крh8 20.Крh1 Лfe8 21.g4 Сc5 22.h4 Кh7 23.b4 Сb6 24.Сa3 Фf6 25.c4 Сd4 26.Лad1 Лbd8 27.Лd3 g6 28.К:d4 Л:d4 29.Лg3 Ф:h4+ 30.Крg2 Фf6 31.Сb2 Лd7 32.Лh1 Кg5 33.Л:h6+ Крg7 34.Лh1 Фf4 35.Лe3 Лdd8 36.Сc1 Лh8 37.Лg3 Фf6 38.Л:h8 Л:h8 39.Фe3 Кe6 40.g5 Фf4 41.Ф:f4 ef 42.Сb2+ Крg8 43.Лd3 Лh5 44.Сf6 f3+ 45.Крg3 Лh1 46.Кр:f3 Лh3+, 0:1.

## «Кавалерыйскі» звышкамплект

У наступнай задачы **Э.Холідэя** у белых – ажно пяць коней.
**Белыя:** Кре2, Кс7, Кd7, Ке7, Кf7, Кg7 (6).
**Чорныя:** Кре4 (1).
**Мат у 4 хады.**

## Праверце адказы

Задача **В.Волчака** і **Л.Макаронца** ад 12 чэрвеня рашаецца: 1.Фс5! ~ 2.Фе7+, 1…Сс4 2.Кd6+, 1…d4 2.Фf5+, 1…Кс4 2.Ф:d5+.

У задачы “Як яны гулялі?” папярэднія хады наступныя: 1.d4-d5+ e7-e5 2.d5:e6+ (на праходзе). Першым правільна адказаў **Ігар Ананіч**.

**Вадзім ЖЫЛКО.**



**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

9 772071 964000 18051

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 25.06.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 225 экз. Заказ № 2076.